ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 1

№ 1



МЕНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

1937



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 1
Студзень 1937 г.



## ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.

Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20000 даб. 50.



*І. Сталін*

# Аб Леніне

## Прамова на вечары крэмлёўскіх курсантаў 28 студзеня 1924 г.

Таварышы! Мне сказалі, што ў вас тут наладжан вечар успамінаў аб Леніне, а я запрошан на вечар у якасці аднаго з дакладчыкаў. Я лічу, што няма патрэбы прадставіць звязны даклад аб дзейнасці Леніна. Я думаю, што было-б лепш абмежавацца паведамленнем раду фактаў, адзначаючых некаторыя асаблівасці Леніна як чалавека і як дзеяча. Паміж гэтымі фактамі, можа быць, і не будзе ўнутранай сувязі, але гэта не можа мець рашаючага значэння для таго, каб атрымаць агульнае ўяўленне аб Леніне. У кожным разе, я не маю магчымасці ў даным выпадку даць вам больш таго, што абяцаў вышэй.

### Горны арол

Упершыню я пазнаёміўся з Леніным у 1903 г. Праўда, гэтае знаёмства было не асабістае, а завочнае, у парадку перапіскі. Але яно пакінула ва мне незгладзімае ўражанне, якое не пакідала мяне за ўвесь час маёй работы ў партыі. Я быў тады ў Сібіры, у ссылцы. Знаёмства з рэволюцыйнай дзейнасцю Леніна з канца 90-х гадоў і асабліва пасля 1901 г., пасля выдання «Искры», прывяло мяне да пераканання, што мы маем у асобе Леніна чалавека незвычайнага. Ён не быў тады ў маіх вачах простым кіраўніком партыі, ён быў яе фактычным тварцом, бо ён адзін разумеў унутраную сутнасць і неадкладныя патрэбы нашай партыі. Калі я параўноўваў яго з астатнімі кіраўнікамі нашай партыі, мне ўвесь час здавалася, што саратнікі Леніна—Плеханаў, Мартаў, Аксельрод і іншыя—стаяць ніжэй Леніна цэлай галавой, што Ленін у параўнанні з імі не проста адзін з кіраўнікоў, а кіраўнік вышэйшага тыпу, горны арол, які не ведае страху ў барацьбе і смела вядзе ўперад партыю па нявыведаных шляхах рускага рэволюцыйнага руху. Гэта ўражанне так глыбока запала мне ў душу, што я адчуў неабходнасць напісаць аб ім аднаму свайму блізкаму другу, які быў тады ў эміграцыі, патрабуючы ад яго водзыву. Праз некаторы час, будучы ўжо ў ссылцы ў Сібіры,—гэта было ў канцы 1903 года,—я атрымаў захапляючы адказ ад майго друга і простае, але глыбока змястоўнае пісьмо Леніна, якога, як аказалася, пазнаёміў мой друг з маім пісьмом. Пісьмяцо Леніна было параўнальна невялікае, але яно давала смелую, бясстрашную крытыку практыкі нашай партыі і надзвычай яснае і сціслае ўкладанне ўсяго плана работы партыі на бліжэйшы перыяд. Толькі Ленін умеў пісаць аб самых заблытаных рэчах так проста і ясна, сцісла і смела—калі кожная фраза не гаворыць, а страляе. Гэтае простае і смелае пісь-

мяцо яшчэ больш умацавала мяне ў тым, што мы маем у асобе Леніна горнага арла нашай партыі. Не магу сабе дараваць, што гэтае пісьмо Леніна, як і многія іншыя пісьмы, па прывычцы старога падпольшчыка, я спаліў.

З гэтага часу пачалося маё знаёмства з Леніным.

## Скромнасць

Упершыню я сустрэўся з Леніным у снежні 1905 г. на канферэнцыі большэвікоў у Тамерфорсе (у Фінляндыі). Я спадзяваўся ўбачыць горнага арла нашай партыі, вялікага чалавека, вялікага не толькі палітычна, але, калі хочаце, і фізічна, бо Ленін рысаваўся ў маім уяўленні ў выглядзе велікана, статнага і самавітага. Якім-жа было маё расчараванне, калі я ўбачыў самага звычайнага чалавека, ніжэй сярэдняга росту, які нічым, літаральна нічым не адрозніваўся ад звычайных смертных...

Прынята, што «вялікі чалавек» звычайна павінен пазніцца на сходы, з тым, каб члены сходу з заміраннем сэрца чакалі яго паяўлення, прычым перад паяўленнем вялікага чалавека члены сходу папярэджваюць: «тсс... цішэй... ён ідзе». Гэтая абраднасць здавалася мне не лішняй, бо яна імпануе, унушае павагу. Якім-жа было маё расчараванне, калі я даведаўся, што Ленін з'явіўся на сход раней дэлегатаў і, забіўшыся недзе ў кутку, па-прасцецку вядзе гутарку, самую звычайную гутарку з самымі звычайнымі дэлегатамі канферэнцыі. Не скрыю, што гэта здалося мне тады некаторым нарушэннем некаторых неабходных правіл.

Толькі пазней я зразумеў, што гэтая прастата і скромнасць Леніна, гэтае імкненне астацца непрыметным або, у кожным разе, не кідацца ў вочы і не падкрэсліваць сваё высокае становішча,—гэтая рыса прадстаўляе адну з самых сільных старон Леніна, як новага правадыра новых мас, простых і звычайных мас найглыбейшых «нізоў» чалавецтва.

## Сіла логікі

Вельмі выдатнымі былі дзве прамовы Леніна, якія ён выказаў на гэтай канферэнцыі: аб бягучым моманце і аб аграрным пытанні. Яны, на жаль, не захаваліся. Гэта былі натхнёныя прамовы, прывёўшыя ў бурнае захапленне ўсю канферэнцыю. Незвычайная сіла пераканання, прастата і яснасць аргументацыі, кароткія і для ўсіх зразумелыя фразы, адсутнасць рысоўкі, адсутнасць галавакружных жэстаў і эфектных фраз, якія б'юць на ўражанне,—усё гэта выгадна адзначала прамовы Леніна ад прамоў звычайных «парламенцкіх» аратараў.

Але мяне захапіў тады не гэты бок прамоў Леніна. Мяне захапіла тая непераможная сіла логікі ў прамовах Леніна, якая некалькі суха, але затое грунтоўна авалодвае аўдыторыяй, паступова электрызуе яе і потым бярэ яе ў палон, як кажуць, без астачы. Я памятаю, як гаварылі тады многія з дэлегатаў: «Логіка ў прамовах Леніна—гэта нейкія ўсясільныя шчупальцы, якія ахапляюць цябе з усіх бакоў абцугамі і з абдымкаў якіх няма сілы вырвацца: або здавайся, або рашайся на поўны правал».

Я думаю, што гэта асаблівасць у прамовах Леніна з'яўляецца самым моцным бокам яго аратарскага майстэрства.

### Без хныкання

Другі раз сустрэў я Леніна ў 1906 годзе на Стокгольмскім з'ездзе нашай партыі. Вядома, што на гэтым з'ездзе большэвікі засталіся ў меншасці, пацярпелі паражэнне. Я ўпершыню бачыў тады Леніна ў ролі пераможанага. Ён ні на іёту не быў падобен на тых правадыроў, якія хныкаюць і сумуюць пасля паражэння. Наадварот, паражэнне ператварыла Леніна ў згустак энергіі, які натхняе сваіх староннікаў да новых баёў, да будучай перамогі. Я гавару аб паражэнні Леніна. Але якое гэта было паражэнне? Трэба было пагляздзець на праціўнікаў Леніна, пераможцаў на Стокгольмскім з'ездзе— Плеханава, Аксельрода, Мартава і іншых: яны вельмі мала былі падобны на сапраўдных пераможцаў, бо Ленін у сваёй бязлітаснай крытыцы меншавізма не пакінуў на іх, як кажуць, жывога месца. Я памятаю, як мы, дэлегаты-большэвікі, збіўшыся ў кучку, глядзелі на Леніна, пытаючыся ў яго парады. У прамовах некаторых дэлегатаў сквазілі зморанасць, смутак. Памятаецца як Ленін у адказ на такія прамовы едка працадзіў праз зубы: «Не хныкайце, таварышы, мы напэўна пераможам, бо мы правы». Нянавісць да хныкаючых інтэлігентаў, вера ў свае сілы, вера ў перамогу,—вось аб чым гаварыў тады з намі Ленін. Адчувалася, што паражэнне большэвікоў з'яўляецца часовым, што большэвікі павінны перамагчы ў бліжэйшым будучым.

«Не хныкаць з прычыны паражэння»—гэта тая самая асаблівасць у дзейнасці Леніна, якая дапамагала згуртоўваць вакол сябе адданую да канца і веруючую ў свае сілы армію.

### Без ганарыстасці

На наступным з'ездзе, у 1907 годзе, у Лондане, большэвікі аказаліся пераможцамі. Я ўпершыню бачыў тады Леніна ў ролі пераможца. Звычайна перамога кружыць галаву некаторым правадырам, робіць іх занослівымі і ганарыстымі. Часцей за ўсё ў такіх выпадках пачынаюць святкаваць перамогу, спачываць на лаўрах. Але Ленін ні на іёту не быў падобен на такіх правадыроў. Наадварот, іменна пасля перамогі станавіўся ён асабліва пільным і настарожаным. Памятаецца, як Ленін настойліва ўнушаў тады дэлегатам: «першая справа— не захапляцца перамогай і не ганарыцца; другая справа—замацаваць за сабой перамогу; трэцяя—дабіць праціўніка, бо ён толькі пабіт, але далёка яшчэ недабіт». Ён едка высмейваў тых дэлегатаў, якія лёгкадумна запэўнівалі, што «ад гэтага часу з меншавікамі пакончана». Яму няцяжка было даказаць, што меншавікі ўсё яшчэ маюць карэнні ў рабочым руху, што з імі трэба змагацца ўмеючы, усяляк пазбягаючы пераацэнкі сваіх сіл і, асабліва, недаацэнкі сіл праціўніка.

«Не ганарыцца перамогай»—гэта тая самая асаблівасць у характары Леніна, якая дапамагала яму цвяроза ўзважваць сілы праціўніка і страхаваць партыю ад магчымых нечаканасцей.

### Прынцыповасць

Правадыры партыі не могуць не даражыць думкай большасці сваёй партыі. Большасць—гэта сіла, з якой не можа не лічыцца правадыр. Ленін гэта разумеў не горш, чым усякі іншы кіраўнік партыі. Але Ленін нікалі не станавіўся палоннікам большасці, асабліва, калі

гэтая большасць не мела пад сабой прынцыповай асновы. Бывалі моманты ў гісторыі нашай партыі, калі думка большасці або мінутныя інтарэсы партыі прыходзілі ў канфлікт з карэннымі інтарэсамі пролетарыята. У такіх выпадках Ленін, не задумваючыся, рашуча станавіўся на бок прынцыповасці супроць большасці партыі. Больш таго, ён не баяўся выступаць у такіх выпадках літаральна адзін супроць усіх, разлічваючы на тое,—як ён часта гаварыў аб гэтым,—што: «прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка».

Асабліва характэрны ў гэтых адносінах два наступныя факты.

**Першы факт.** Перыяд 1909—1911 гг., калі партыя, разбітая контррэволюцыяй, перажывала поўнае разлажэнне. Гэта быў перыяд бязвер'я ў партыю, перыяд павальнага бегства з партыі не толькі інтэлігентаў, але часткова і рабочых, перыяд адмаўлення падполля, перыяд ліквідатарства і развалу. Не толькі меншавікі, але і большэвікі прадстаўлялі тады цэлы рад фракцый і плыней, большай часткай адарваных ад рабочага руху. Вядома, што ў гэты іменна перыяд узнікла ідэя поўнай ліквідацыі падполля і арганізацыі рабочых у легальную, ліберальную сталыпінскую партыю. Ленін быў тады адзіным, які не паддаўся агульнаму паветрыю і высока трымаў сцяг партыйнасці, збіраючы разрозненыя і разбітыя сілы партыі з дзіўнай цярплівасцю і з небывалым упорствам, ваюючы супроць усіх і ўсякіх антыпартыйных плыней унутры рабочага руху, адстойваючы партыйнасць з небывалай мужнасцю і з нябачанай настойлівасцю.

Вядома, што ў гэтай спрэчцы за партыйнасць Ленін аказаўся потым пераможцам.

**Другі факт.** Перыяд 1914—1917 гг., перыяд разгару імперыялістычнай вайны, калі ўсе ці амаль усе соцыял-дэмакратычныя соцыялістычныя партыі, паддаўшыся агульнаму патрыятычнаму чаду, аддалі сябе на ўслужэнне айчыннаму імперыялізму. Гэта быў перыяд, калі II Інтэрнацыянал схіліў свае сцягі перад капіталам, калі перад шавіністычнаю хваляй не ўстаялі нават такія людзі, як Плеханаў, Каўцкі, Гэд і іншыя. Ленін быў тады адзіным ці амаль адзіным, які падняў рашучую барацьбу супроць соцыял-шавінізма і соцыял-пацыфізма, выкрываў здрадніцтва Гэдаў і Каўцкіх і кляйміў палавінчатасць межавумачных «рэволюцыянераў». Ленін разумеў, што ён мае за сабой нязначную меншасць, але гэта не мела для яго рашаючага значэння, бо ён ведаў, што адзіна вернай палітыкай, якая мае за сабой будучыню, з'яўляецца палітыка паслядоўнага інтэрнацыяналізма, бо ён ведаў, што прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка.

Вядома, што і ў гэтай спрэчцы за новы Інтэрнацыянал Ленін аказаўся пераможцам.

«Прынцыповая палітыка ёсць адзіна правільная палітыка»—гэта тая самая формула, пры дапамозе якой Ленін браў прыступам новыя «непрыступныя» пазіцыі, заваёўваючы на бок рэволюцыйнага марксізма лепшыя элементы пролетарыята.

## Вера ў масы

Тэарэтыкі і правадыры партый, якія ведаюць гісторыю народаў, якія праштудзіравалі гісторыю рэволюцый ад пачатку да канца, часам хварэюць адной непрыстойнай хваробай. Хвароба гэта называецца баязню мас, няверʼем у творчыя здольнасці мас. На гэтай глебе ўзнікае часам нейкі арыстакратызм правадыроў у адносінах да

мас, не спрактыкаваных у гісторыі рэвалюцый, але закліканых ламаць старое і будаваць новае. Баязнь, што стыхія можа разбушавацца, што масы могуць «паламаць шмат лішняга», жаданне разыграць ролю мамкі, якая стараецца вучыць масы па кніжках, але не жадае вучыцца ў мас,—вось аснова гэтага роду арыстакратызма.

Ленін прадстаўляў поўную процілегласць такім правадырам. Я не ведаю другога рэвалюцыянера, які так глыбока верыў-бы ў творчыя сілы пролетарыята і ў рэвалюцыйную мэтазгоднасць яго класавага інстынкту, як Ленін. Я не ведаю другога рэвалюцыянера, які ўмеў-бы так бязлітасна бічаваць самаздаволеных крытыкаў «хаоса рэвалюцыі» і «вакханаліі самачынных дзеянняў мас», як Ленін. Памятаецца, як у час адной гутаркі, у адказ на заўвагу аднаго з таварышоў, што «пасля рэвалюцыі павінен устанавіцца нармальны парадак», Ленін саркастычна заўважыў: «Бяда, калі людзі, якія жадаюць быць рэвалюцыянерамі, забываюць, што найбольш нармальным парадкам у гісторыі з'яўляецца парадак рэвалюцыі».

Адсюль пагардлівыя адносіны Леніна да ўсіх тых, якія стараліся звысока глядзець на масы і вучыць іх па кніжках. Адсюль нястомная прапаведзь Леніна: вучыцца ў мас, асэнсіць іх дзеянні, старанна вывучаць практычны вопыт барацьбы мас.

Вера ў творчыя сілы мас—гэта тая самая асаблівасць у дзейнасці Леніна, якая давала яму магчымасць асэнсіць стыхію і накіроўваць яе рух у русло пролетарскай рэвалюцыі.

## Геній рэвалюцыі

Ленін быў народжан для рэвалюцыі. Ён быў запраўды геніем рэвалюцыйных выбухаў і велізарнейшым майстрам рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Ніколі ён не адчуваў сябе так свабодна і радасна, як у эпоху рэвалюцыйных патрасенняў. Гэтым я зусім не хачу сказаць, што Ленін аднолькава ўхваляў усякае рэвалюцыйнае патрасенне або што ён заўсёды і пры ўсякіх умовах стаяў за рэвалюцыйныя выбухі. Ніколькі. Гэтым з хачу толькі сказаць, што ніколі геніяльная празарлівасць Леніна не праяўлялася так поўна і выразна, як у час рэвалюцыйных выбухаў. У дні рэвалюцыйных паваротаў ён літаральна расцвітаў, станавіўся яснавідцам, прадугадваў рух класаў і магчымыя зігзагі рэвалюцыі, бачачы іх, як на далоні. Нездарма гаворыцца ў нашых партыйных колах, што «Ільіч умее плаваць у хвалях рэвалюцыі, як рыба ў вадзе».

Адсюль «здзіўляючая» **яснасць** тактычных лозунгаў «галавакружыцельная» **смеласць** рэвалюцыйных замыслаў Леніна.

Успамінаюцца два асабліва характэрныя факты, якія адзначаюць гэтую асаблівасць Леніна.

**Першы факт.** Перыяд перад Окцябрскім пераваротам, калі мільёны рабочых, сялян і салдат, падганяемыя крызісам у тылу і на фронце, патрабавалі міру і свабоды; калі генералітэт і буржуазія падрыхтоўвалі ваенную дыктатуру ў інтарэсах «вайны да канца»; калі ўся так званая «грамадская думка», усе так званыя «соцыялістычныя партыі» стаялі супроць большэвікоў, трэціруючы іх «нямецкімі шпіёнамі»; калі Керэнскі спрабаваў загнаць у падполле—і часткова ўжо паспеў загнаць—партыю большэвікоў; калі ўсё яшчэ магутныя дысцыплінаваныя арміі аўстра-германскай кааліцыі стаялі супроць нашых стомленых і разлагаўшыхся армій, а заходне-еўрапейскія «соцыялісты»



часна прабывалі ў блоку са сваімі ўрадамі ў інтарэсах «вайны да поўнай перамогі»...

Што значыла падняць паўстанне ў такі момант? Падняць паўстанне ў такой абстаноўцы—гэта значыць паставіць ўсё на карту. Але Ленін не баяўся рызыкнуць, бо ён ведаў, бачыў сваім яснавідучым зрокам, што паўстанне немінуча, што паўстанне пераможа, што паўстанне ў Расіі падрыхтуе канец імперыялісцкай вайны, што паўстанне ў Расіі ўскалыхне змучаныя масы Захада, што паўстанне ў Расііператворыць вайну імперыялісцкую ў вайну грамадзянскую, што паўстанне дасць рэспубліку советаў, што рэспубліка советаў паслужыць аплотам рэволюцыйнага руху ва ўсім свеце.

Вядома, што гэтае рэволюцыйнае прадбачанне Леніна збылося пазней з нябачанай дакладнасцю.

**Другі факт.** Першыя дні пасля Окцябрскай рэволюцыі, калі Совет Народных Камісараў спрабаваў прымусіць мяцежнага генерала, галоўнакамандуючага Духоніна, спыніць ваенныя дзеянні і адкрыць перагаворы з немцамі аб перамір'і. Памятаецца, як Ленін, Крыленко (будучы галоўнакамандуючы) і я адправіліся ў Галоўны штаб у Піцеры да провада для перагавораў з Духонінам. Мінута была жудасная. Духонін і Стаўка катэгарычна адмовіліся выканаць загад Соўнаркома. Каманднь склад арміі знаходзіўся цалкам у руках Стаўкі. Што датычыць салдат, то невядома было, што скажа 12-мільённая армія, падначаленая так званым армейскім арганізацыям, настроеным супроць Совецкай улады. У смым Піцеры, як вядома, наспявала тады паўстанне юнкероў. Акрамя таго Керэнскі ішоў на Піцер вайной. Памятаецца, як пасля некаторай паўзы каля провада твар Леніна засвяціўся нейкім незвычайным святлом. Відаць было, што ён ужо прыняў рашэнне. «Пойдзем на радыёстанцыю,—сказаў Ленін,—яна нам саслужыць карысць: мы знімем у спецыяльным загадзе генерала Духоніна, прызначым на яго месца галоўнакамандуючым тав. Крыленко і звернемся да салдат праз галаву каманднага складу з заклікам—акружыць генералаў, спыніць ваенныя дзеянні, звязацца з аўстра-германскімі салдатамі і ўзяць справу міру ў свае ўласныя рукі».

Гэта быў «скачок у невядомае». Але Ленін не баяўся гэтага «скачка», наадварот, ён ішоў яму насустрач, бо ён ведаў, што армія хоча міру, і яна заваюе мір, змятаючы па шляху да міру ўсе і ўсякія перашкоды, бо ён ведаў, што такі спосаб устанаўлення міру не пройдзе дарэмна для аўстра-германскіх салдат, што ён развяжа цягу да міру на ўсіх без выключэння фронтах.

Вядома, што гэтае рэволюцыйнае прадбачанне Леніна таксама збылося пазней з усёй дакладнасцю.

Геніяльная празарлівасць, здольнасць быстра схватваць і разгадваць унутраны сэнс надыходзячых падзей—гэта тая самая ўласцівасць Леніна, якая дапамагала яму намячаць правільную стратэгію і ясную лінію паводзін на паваротах рэволюцыйнага руху.

«Правда» № 34,
12 лютага 1924 г.

# Трыумф ленінізма

13 год назад перастала біцца палкае сэрца вялікага генія чалавецтва—заснавальніка ВКП(б) і Комуністычнага Інтэрнацыянала, арганізатара перамогі пролетарскай рэволюцыі, тварца першай у гісторыі чалавечага грамадства соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

21 снежня 1924 года не стала Владзіміра Ільіча Леніна.

Ушоў ад нас геніяльны мысліцель, тварэц і арганізатар новага жыцця, свабоднага ад рабства, галечы, цемры і эксплаатацыі. Смерць вырвала з нашых радоў Леніна. Аднак вобраз яго застаўся ў сэрцах мільённых мас совецкага народу і працоўных усяго свету. Ён пакінуў нам найбагацейшы скарб—сваё вучэнне, ленінізм, які гіганцкім пражэктарам асвятляе шлях да перамогі соцыялізма і комунізма. У сваіх бяссмертных творах Ленін яскрава ўказваў нам шляхі, якія забяспечаць перамогу соцыялізма і комунізма.

У Леніне была ўвасоблена воля і надзеі мільёнаў прыгнечаных і эксплаатуемых. Ён не толькі быў геніяльным тэарэтыкам і арганізатарам пролетарыята, але і выдатным будаўніком новай дзяржавы рабочых і сялян у форме совецкай улады, закліканай назаўсёды знішчыць эксплаатацыю чалавека чалавекам, знішчыць падзел чалавечага грамадства на класы.

> «Ленін, агітатар і ўсеаб'емлючы дзяржаўны дзеяч амаль звышчалавечай празарлівасці, які ўмеў ва ўсіх акалічнасцях беспамылкова і ў поўным аб'ёме ажыццявіць сінтэз рэволюцыйнай тэорыі і практыкі,—заўсёды дзейнічаў на аснове марксізма. Ленінізм—гэта і ёсць марксізм. Гэта—новая глава ў марксізме. Гэта не дапаўненне, гэта канкрэтнае прымяненне марксізма да сучасных умоў.
>
> ... Творчы геній Леніна выразіўся ва ўвасабленні соцыялістычнай тэорыі ў рэволюцыю (а затым у рэволюцыйны парадак)» *).
>
> «Вера ў творчыя сілы мас—гэта тая самая асаблівасць у дзейнасці Леніна, якая давала яму магчымасць асэнсіць стыхію і накіроўваць яе рух у русло пролетарскай рэволюцыі» (Сталін).

Ленін паклаў пачатак вялікаму руху ў нашай краіне і ва ўсім свеце, імя якому—большэвізм. Сумесна са сваім геніяльным вучнем, другам і саратнікам таварышом Сталіным ён арганізаваў і выпеставаў самую магутную, непахісную і маналітную партыю—партыю большэвікоў.

Ленін, па выражэнню Сталіна, быў народжан для рэволюцыі.

---

*) Анры Барбюс, „Сталин", стар. 56—57.

Ён быў сапраўдным геніем рэволюцыйных выбухаў і велізарнейшым майстрам рэволюцыйнага кіраўніцтва.

«Ленін... кіраўнік вышэйшага тыпу, горны арол, які не ведае страху ў барацьбе і смела вядзе ўперад партыю па нявыведаных шляхах рускага рэволюцыйнага руху» (**Сталін**).

Сіла гэтага майстэрства Леніна заключалася ў тым, што ён верыў у творчыя здольнасці рабочага класа і шырокіх мас працоўных нашай краіны. Яшчэ ў гады грамадзянскай вайны, у гады голаду і разрухі, Владзімір Ільіч у сваім артыкуле «Галоўная задача нашых дзён» падкрэсліваў, што перад совецкім ладам адкрыты велізарныя магчымасці руху к комунізму. Ён заклікаў партыю і рабочы клас на большэвіцкую барацьбу з цяжкасцямі разрухі і голаду, за магутную машынную індустрыю, як адзіна правільны шлях для стварэння ўмоў перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Як выдатны пролетарскі тэарэтык, стратэг і арганізатар, Ленін не толькі заклікаў да барацьбы за стварэнне эканамічнай незалежнасці нашай краіны ад капіталістычнага свету, не толькі ўказаў шлях да перамогі соцыялізма і комунізма, але і сам прыймаў непасрэдны ўдзел у арганізацыі гэтай перамогі. Пад яго кіраўніцтвам быў распрацован «План электрыфікацыі Расіі»—«ГОЭЛРО»

«Электрыфікацыя была тым жывым коранем, які звязваў з зямлёю ўвесь гіганцкі план індустрыялізацыі. Ленін, якому ясна было будучае, бачыў, якая роля прадстаіць электрычнаму току,—бачыў у той момант, калі ніхто гэтага не мог бачыць,— калі паціханьку ішоў сваім парадкам нэп, калі яшчэ не загаіліся раны змучанага народу і ў поўным разгары была пляска контррэволюцыйных надзей буржуазіі» *).

Владзімір Ільіч непасрэдна кіраваў закладкаю першай магутнай гідраэлектрастанцыі—на рацэ Волхаў пад Ленінградам.

Ленін, поплеч са сваім вучнем і саратнікам— таварышом Сталіным, распрацоўваў шляхі эканамічнага развіцця нашай краіны пасля сканчэння грамадзянскай вайны. Разграміўшы контррэволюцыйныя вылазкі «Іудушкі» Троцкага і яго прыхвасняў, яны перавялі народную гаспадарку на рэйкі нэпа. Гэта быў адзіна правільны шлях аднаўлення разбуранай імперыялістычнай і грамадзянскай войнамі народнай гаспадаркі, адзіна правільны шлях для стварэння ўмоў канчатковай перамогі соцыялізма над капіталізмам у нашай краіне.

* * *

13 год назад перастала біцца сэрца Леніна. Але сцяг Леніна не ўпаў. Бяссмертны і непераможны сцяг марксізма-ленінізма падхапіў магутнай рукою вялікі спадарожнік Владзіміра Ільіча—таварыш Сталін. У жалезнай руцэ таварыша Сталіна сцяг ленінізма ярка асвятляе шлях да соцыялізма і комунізма.

13 год назад ля труны вялікага Леніна таварыш Сталін перад тварам усяго свету сфармуляваў яго заветы і, выражаючы думкі ўсяго совецкага народу, даў гістарычную клятву:

«Трымаць высока і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі.

---

*) **Анры Барбюс**, „Сталин", стар. 184.

Захоўваць адзінства нашай партыі, як зрэнку вока.
Захоўваць і ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята.
Умацоўваць усімі сіламі саюз рабочых і сялян.
Умацоўваць і расшыраць саюз працоўных усяго свету—Комуністычны Інтэрнацыянал».

Клятвенныя словы таварыша Сталіна сталі для нас праграмай барацьбы за перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

13 год без Леніна наша партыя змагаецца і перамагае. Пад мудрым кіраўніцтвам таварыша Сталіна яна ператварае ў рэчаіснасць геніяльнае вучэнне ленінізма, узносячы выдатны будынак бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Цвёрда і непахісна партыя большэвікоў выконвае на практыцы клятву свайго правадыра, даную ім ля труны Владзіміра Ільіча.

Высока трымаючы сцяг ленінізма, вялікі Сталін разграміў усе контррэволюцыйныя тэорыі здраднікаў з трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі—гэтых подлых рэстаўратараў капіталізма, якія, прыкрываючыся «левымі» фразамі і двурушнічаючы, імкнуліся сцягнуць партыю з правільнага ленінскага шляху. Таварыш Сталін выявіў і выкрыў контррэволюцыйныя тэорыі правай апазіцыі і права-лявацкага блоку, выкрыў контррэволюцыйную сутнасць і разбіў ушчэнт вялікадзяржаўных шавіністаў і нацыяналістаў усіх плыней і колераў. Як верны вучань і бліжэйшы саратнік Леніна, таварыш Сталін адстаяў чыстату вучэння марксізма-ленінізма ад усякіх апартуністычных наскокаў і скажэнняў і ўзняў яго на новую тэарэтычную вышыню.

* * *

Ленінска-сталінскі ЦК ВКП(б), выконваючы клятву правадыра, адстаяў чыстату і маналітнасць радоў большэвіцкай партыі. Перыядычна праводзячы чыстку сваіх радоў, праверку і абмен партыйных дакументаў, наша партыя выгнала нямала прытаіўшыхся ворагаў рабочага класа і прамых контррэволюцыйных элементаў, якія шляхам абману і двурушніцтва пралезлі ў яе рады, каб, прыкрываючыся партыйным білетам, тварыць сваю контррэволюцыйную справу.

Дзякуючы геніяльнай празарлівасці і прынцыповай непрымірымасці таварыша Сталіна да ўсялякіх праяў і прошукаў класавых ворагаў і апартуністычных элементаў усіх масцей, былі выкрыты манеўры і імкненні трацкісцка-зіноўеўскай зграі. Ніхто іншы, як таварыш Сталін, яшчэ задоўга да выкрыцця ўсёй гэтай банды як дыверсантаў, тэрарыстаў, агалцелых рэстаўратараў капіталізма, папярэдзіў партыю аб тым, што перамога соцыялізма можа выклікаць ажыўленне сярод трацкістаў і іншых контррэволюцыйных элементаў, што яны, не спыняючыся ні перад чым, будуць імкнуцца нанесці ўдар партыі і рабочаму класу.

Заклікаючы партыю і кожнага комуніста павысіць сваю большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць, таварыш Сталін указаў:

«Трацкізм ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Вось чаму лібералізм у адносінах да трацкізма, хоць-бы і разбітага і замаскаванага, ёсць галавацяпства, мяжуючае са злачынствам, здрадай рабочаму класу».

Толькі дзякуючы рэволюцыйнай празарлівасці мудрага Сталіна наша партыя своечасова разграміла контррэволюцыйны трацкізм,

правы апартунізм і права-лявацкі блок і забяспечыла ажыццяўленне генеральнай лініі партыі на індустрыялізацыю краіны. Пад мудрым кіраўніцтвам свайго любімага правадыра і настаўніка наша партыя мабілізавала рабочы клас на ажыццяўленне плана індустрыялізацыі краіны і на яго аснове—перабудовы сельскай гаспадаркі. Ажыццяўляючы пад сталінскім кіраўніцтвам заветы Ільіча, наша партыя забяспечыла небывалы эканамічны і культурны рост і поўную эканамічную незалежнасць нашай краіны ад капіталістычнага свету.

Наша краіна пакрыта зараз тысячамі новых прадпрыемстваў, узброеных сучаснай перадавой тэхнікай. Сельская гаспадарка з акіяна дробных аднаасобных гаспадарак ператворана ў буйнейшую ў свеце калектывізаваную сельскую гаспадарку, узброеную перадавою тэхнікай. На палях нашых калгасаў і соўгасаў працуюць ужо 400 тысяч трактароў, каля 90 тысяч камбайнаў і больш 2,5 мільёна розных складаных і поўскладаных сельскагаспадарчых машын.

У жорсткіх класавых баях з рэнегатамі, здраднікамі, апартуністамі і ўсімі ворагамі соцыялізма Цэнтральны Камітэт партыі на чале з вялікім Сталіным не толькі адстаяў вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, але і на справе ажыццявіў важнейшыя яго палажэнні.

Соцыялізм ужо не мара, а рэальная рэчаіснасць.

На працягу 13 год барацьбы без Леніна партыя большэвікоў пад сталінскім кіраўніцтвам забяспечыла канчатковую перамогу соцыялізма ва ўсіх галінах нашай народнай гаспадаркі і эканомікі. На адной шостай частцы земнай сушы капіталізм назаўсёды ліквідаваны.

Наша партыя перамагала таму, што яна верна, паслядоўна і непахісна ажыццяўляла вучэнне Леніна аб умацаванні саюза рабочага класа і сялян.

У 1924 годзе, калі неўмалімая рука смерці вырвала з нашых радоў Леніна, у нас быў першы перыяд або пачатак нэпа, а цяпер мы маем апошні перыяд нэпа, перыяд поўнай ліквідацыі капіталізма ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі.

> «Такім чынам поўная перамога соцыялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам.
>
> ...Эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага совецкага грамадства» **(Сталін).**

Трыумфам ленінізма з'яўляецца Сталінская Канстытуцыя, якая замацавала тое, што краіна соцыялізма заваявала пад ленінскім і сталінскім кіраўніцтвам. У першым артыкуле гэтага гістарычнага дакумента запісаны залатыя словы:

> «Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян».

Сталінская Канстытуцыя—яркі довад таго, што толькі комуністычная партыя, як авангард рабочага класа, з'яўляецца адзінай партыяй, якая здольна забяспечыць перамогу эксплаатуемых мас над сваімі эксплаататарамі, што толькі комуністычная партыя, і ніякая іншая, забяспечыць перамогу пралетарскай рэволюцыі і перамогу соцыялізма над капіталізмам ва ўсім свеце.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі працоўныя масы вялікага

Савецкага Саюза за 19 год упартай барацьбы здолелі ліквідаваць клас эксплаататараў і пабудаваць соцыялізм у сваёй краіне.

> «Не стала класа капіталістаў у галіне прамысловасці. Не стала класа кулакоў у галіне сельскай гаспадаркі. Не стала купцоў і спекулянтаў у галіне тавараабароту. Усе эксплаататарскія класы аказаліся, такім чынам, ліквідаванымі.
> Астаўся рабочы клас.
> Астаўся клас сялян.
> Асталася інтэлігенцыя» **(Сталін).**

Але і рабочы клас і клас сялян—ужо не тыя, якімі яны былі яшчэ ў нядаўнім мінулым. Таксама і інтэлігенцыя не тая. Эканамічныя змены ў сувязі з перамогай соцыялізма выклікалі змены і ў класе рабочых, класе сялян і сярод інтэлігенцыі.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на Надзвычайным VIII З'ездзе Саветаў СССР адзначыў:

> ... Рабочы клас СССР—гэта зусім новы, вызвалены ад эксплаатацыі, рабочы клас, падобнага якому не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва.
> ... Савецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, падобнага якому яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва».
> Наша савецкая інтэлігенцыя—гэта «зусім новая, працоўная інтэлігенцыя, падобнай якой не знойдзеце ні ў адной краіне земнага шара».

У нашай краіне ў выніку пераможнага ходу соцыялістычнага будаўніцтва ўсё больш і больш сціраюцца грані паміж рабочым класам і сялянствам. Сельскагаспадарчая праца паступова, на аснове машынізацыі і механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, становіцца разнавіднасцю індустрыяльнай працы. Таксама сціраюцца грані паміж класам рабочых і сялян і інтэлігенцыяй. Безупынна паляпшаецца добрабыт шырокіх мас працоўных. «Жыць стала лепш, жыць стала весялей».

На аснове паслядоўнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ўсе народнасці нашай вялікай краіны аб'яднаны ў дружную брацкую сям'ю. Паводле меткага выражэння выдатнага французскага рэволюцыйнага пісьменніка Анры Барбюса, Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца «Сузор'ем нацыянальнасцей».

Савецкая ўлада і партыя пад кіраўніцтвам Сталіна нястомна працавалі над уздымам экономікі і культуры раней прыгнечаных і адсталых нацыянальных абласцей і рэспублік, якія ў мінулым з'яўляліся калоніямі рускага царызма і капіталізма. Партыя і савецкая ўлада забяспечылі высокія тэмпы развіцця соцыялістычнай прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры былых акраін.

Савецкі Саюз аказвае агромную дапамогу нацыянальным рэспублікам і абласцям у іх эканамічным, гаспадарчым і культурным росце. У выніку рад рэспублік і абласцей вышаў у рады перадавых. Яркім таму прыкладам служыць наша Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка.

Беларусь была адной з самых заняпалых калоній рускага царызма. Працоўныя масы асуджаны былі на галечу, жабрацтва і галодную смерць. Цяпер Беларусь з'яўляецца передавой ордэнаноснай рэспублікай. Беларускі народ, як і многія іншыя нацыянальнасці акраін, толькі

дзякуючы перамозе Окцябрскай рэволюцыі, упершыню ў гісторыі свайго існавання атрымала сваю дзяржаўнасць.

Сталінскае кіраўніцтва забяспечыла трыуфм ленінізма ў рознастайных галінах соцыяльнага, нацыянальнага і культурнага будаўніцтва. Усё гэта дасягнута на аснове правядзення ў жыццё вучэння Леніна—Сталіна.

«У рэзультаце мы маем цяпер многанацыянальную соцыялістычную дзяржаву, якая ўпаўне склалася і вытрымала ўсе іспыты, моцнасці якой магла-б пазайздросціць любая нацыянальная дзяржава ў любой частцы свету» **(Сталін).**

* * *

Совецкі Саюз пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ператворан у непрыступную крэпасць соцыялізма. СССР гранітнай скалою ўзвышаецца сярод бушуючага акіяна капіталістычнага хаоса. СССР з'яўляецца маяком, які паказвае працоўным і эксплаатуемым масам капіталістычных краін шлях да свайго вызвалення. Гісторыя паставіла рабочы клас Совецкага Саюза і яго авангард—Усесаюзную Комуністычную Партыю большэвікоў—на перадавыя пазіцыі барацьбы за соцыялізм і комунізм. Гэту гістарычную ролю партыі большэвікоў і рабочага класа Расіі геніяльны розум Леніна прадбачыў яшчэ на зары большэвізма.

Владзімір Ільіч яшчэ ў 1902 годзе ў сваёй брашуры «Што рабіць?» пісаў:

«Гісторыя паставіла цяпер перад намі бліжэйшую задачу, якая з'яўляецца **найбольш рэволюцыйнай з усіх бліжэйшых** задач пролетарыята якой-бы там ні было іншай краіны. Ажыццяўленне гэтай задачы, разбурэнне самага магутнага аплоту не толькі еўрапейскай, але таксама (можам мы сказаць цяпер) і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыята».

Партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным ажыццявіла гэту гістарычную рэволюцыйную задачу. Рабочы клас і яго авангард—ВКП(б) з'яўляюцца цяпер перадавым баявым атрадам міжнароднага пролетарыята і працоўных мас у іх барацьбе за сваё вызваленне з-пад гнёту капіталістычнай эксплаатацыі.

Само існаванне СССР, яго поспехі ў пабудове соцыялізма, у знішчэнні класа капіталістаў выклікаюць, з аднаго боку, уздым рэволюцыйнай свядомасці прыгнечаных мас капіталістычных краін, калоній і поўкалоній, а, з другога боку,—звярыную нянавісць капіталістычных драпежнікаў і фашысцкіх галаварэзаў.

Імперыялістычныя клікі розных капіталістычных краін, сярод якіх перадавое месца займаюць фашысцкія заправілы Трэцяй імперыі і імперыялістычная зграя Японіі, ліхаманкава рыхтуюцца да ваеннага нападу на Совецкі Саюз, жадаючы знішчыць яго, як перадавы атрад міжнароднага пролетарыята.

У барацьбе супроць совецкай улады фашысты знайшлі сабе верных агентаў і памочнікаў сярод падонкаў разгромленага ў свой час контррэволюцыйнага трацкізма. Гэтае чалавечае атрэб'е на чале з ашалелым псом «Іудушкай» Троцкім стала непасрэдным пасобнікам фашызма і імперыялістычных клік у іх барацьбе за рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне. Працэс над фашысцкімі гадамі з трацкісцка-

зіноўеўскай банды, над зграяй тэрарыстаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойц у жніўні 1936 г., працэс на Кемераўскіх рудніках і апошні працэс над агалцелымі фашысцкімі псамі Пятаковым, Радэкам і іншымі, якія складалі паралельны трацкісцка-фашысцкі цэнтр, з усёй нагляднасцю агалілі звярыны твар гэтых адкідаў чалавечага грамадства. Як фашысцкія агенты, яны ішлі на самыя подлыя сродкі барацьбы з партыяй, з краінай соцыялізма, каб дабіцца сваёй мэты—рэстаўрацыі капіталізма. Яны сталі на шлях тэрору, дыверсіі, шпіянажу ў карысць нямецкага фашызма і японскіх імперыялістаў, яны заключылі саюз з фашыстамі Трэцяй імперыі і японскім імперыялізмам для нападу на совецкую краіну. Оптам і ў розніцу распрадавалі яны фашыстам нашы тэрыторыі. Гэтыя страшэнныя злачынствы рэстаўратараў капіталізма з трацкісцка-зіноўеўскай банды і правых адшчапенцаў выкрыты зараз перад усім светам.

Увесь совецкі народ са здавальненнем сустрэў справядлівы прыгавор Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда Саюза ССР над гэтай бандай фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, здраднікаў радзімы, рэстаўратараў капіталізма. Прыгавор суда—гэта прыгавор усяго 170-мільённага совецкага народу над кучкай подлых здраднікаў, крыважэрных забойц, чые рукі заліты крывёю трыбуна рэвалюцыі—Сергея Міронавіча Кірава, крывёю стаханаўцаў Кемераўскіх руднікоў, крывёю лепшых людзей нашай радзімы.

> «Як кінематаграфічная лента, пушчаная адваротным ходам, гэты працэс нам напомніў і паказаў усе асноўныя этапы гістарычнага шляху трацкістаў і трацкізма, які патраціў 30 з лішнім год свайго існавання на тое, каб падрыхтаваць урэшце сваё канчатковае ператварэнне ў штурмавы атрад фашызма, адно з аддзяленняў фашысцкай паліцыі» *(Вышынскі).*

Працэсы над забойцамі-трацкістамі яшчэ і яшчэ раз напамінаюць нам аб тым, што класавы вораг не спыняе барацьбы супроць нашай партыі, супроць краіны соцыялізма. Наш абавязак—яшчэ вышэй узняць большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць, заўсёды ўмець выкрыць і разбіць ворагаў соцыялізма, у якую-б вопратку яны ні маскаваліся. Наш абавязак—усямерна мацаваць бяздольнасць нашай слаўнай і непераможнай Чырвонай арміі, нашы морскі і паветраны флоты, абароназдольнасць нашай краіны.

Мы заўсёды павінны быць гатовы адказаць фашыстам і імперыялістычным інтэрвентам сакрушальным ударам, «каб у далейшым не паваднa было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод».

* * *

Справа Леніна жыве і перамагае. Выхаваныя соцыялістычнай рэволюцыяй, партыяй большэвікоў і таварышом Сталіным мільёны працоўных нашай краіны не ведаюць іншага шляху да новага радаснага жыцця, акрамя ўказанага Леніным—Сталіным.

Ленінскае вучэнне асвятляе самыя цёмныя, адсталыя, далёкія куткі земнага шара. Яно натхняе мільёны прыгнечаных і эксплаатуемых на барацьбу за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Расце і мацнее дзецішча Леніна—баявы штаб сусветнай рэволюцыі Комуністычны Інтэрнацыянал. Растуць і шырацца рады комуністычных партый у капіталістычных краінах, займаючы авангардныя пазіцыі ў барацьбе народаў супроць фашызма.

Хартыя вялікіх свабод і росквіту совецкай дэмакратыі—Сталінская Канстытуцыя натхняе шырокія масы працоўных усяго свету на апошні штурм капіталізма. Наша соцыялістычная радзіма паказвае ім шлях да свабоднага, шчаслівага, радаснага, заможнага, культурнага жыцця. Гэта—шлях, па якому вядзе нашу краіну партыя Леніна—Сталіна.

Няма такой сілы, якая магла-б спыніць гістарычны рух працоўных да новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Няма такой сілы, якая магла-б пагасіць факел рэволюцыі, запалены над светам вучэннем Леніна. Няма такой сілы, якая магла-б затрымаць трыумф ленінізма ва ўсім свеце.

* * *

1937 год рабочыя нашай прамысловасці і транспарту, калгаснае сялянства і ўсе працоўныя розных галін народнай гаспадаркі пачалі барацьбой за далейшае разгортванне стаханаўскага руху, за аўладанне тэхнікай вытворчасці і вышынямі навукі. Гэты магутны ўздым прынясе далейшае палепшанне жыцця, павелічэнне багацця прадуктаў і тавараў, рост добрабыту совецкага народу. Гэты ўздым умацуе магутнасць нашай радзімы, яшчэ больш наблізіць нас да ажыццяўлення пастаўленай Леніным і Сталіным задачы—«дагнаць і перагнаць перадавыя ў тэхніка-эканамічных адносінах капіталістычныя краіны». Магутны стаханаўскі рух з'яўляецца зарукай таго, што гэту задачу мы выканаем у найкарацейшы тэрмін.

«Са сцягам Леніна перамаглі мы ў баях за Окцябрскую рэволюцыю.

Са сцягам Леніна дабіліся мы рашаючых поспехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым-жа сцягам пераможам у пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце» **(Сталін).**

**Р. Соскін**

Сакратар Аршанскага РК КП(б)Б

# Сталінская Канстытуцыя і перамога соцыялізма

Распрацаваная па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна новая Канстытуцыя падводзіць слаўныя вынікі 19-гадовай барацьбы народаў СССР за пабудову соцыялізма.

Сталінская Канстытуцыя—гістарычны дакумент новай эпохі дэмакратыі, яркае ўвасабленне трыумфу соцыялізма ў нашай краіне.

Увесь 170-мільённы совецкі народ з вялікім энтузіязмам сачыў за работай З'езда, які зацвярджаў хартыю вялікіх свабод—Сталінскую Канстытуцыю.

Малыя і старыя, жанчыны і мужчыны, рускія і грузіны, украінцы і беларусы, армяне і казакі, туркмены і азербайджанцы, узбекі і кіргізы, башкіры і татары—усе народы многанацыянальнай совецкай дзяржавы жылі адною думкай, думкай аб Сталінскай Канстытуцыі.

Таварыш Сталін з уласцівай яму праматой і мудрасцю далажыў З'езду аб тых зменах, што адбыліся ў жыцці СССР за перыяд часу паміж II і VIII Надзвычайным з'ездамі советаў, г. зн. з 1924 па 1936 год. Таварыш Сталін указаў, што 1924 год быў першым перыядам нэпа, калі

> «Совецкая ўлада дапусціла некаторае ажыўленне капіталізма пры ўсямерным развіцці соцыялізма, калі яна разлічвала на тое, каб у ходзе спаборніцтва двух сістэм гаспадаркі, капіталістычнай і соцыялістычнай, арганізаваць перавагу соцыялістычнай сістэмы над капіталістычнай. Задача заключалася ў тым, каб у ходзе гэтага спаборніцтва ўмацаваць пазіцыі соцыялізма, дабіцца ліквідацыі капіталістычных элементаў і завяршыць перамогу соцыялістычнай сістэмы».

Тады прамысловасць яшчэ не дасягала даваеннага ўзроўню. Мы мелі адсталую тэхніку. Удзельная вага прыватнага капітала ў прамысловасці роўна была 20 проц.

У сельскай гаспадарцы кулак прадстаўляў яшчэ даволі значную сілу. Вёска наша была неабсяжным акіянам дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак з іх адсталай тэхнікай.

«Мы гаварылі тады не аб ліквідацыі кулацтва, а аб яго абмежаванні» **(Сталін).**

Соцыялістычны сектар у тавараабароце складаў тады 50—60%, а ўсё астатняе было занята купцамі і спекулянтамі. Такою была наша эканоміка ў перыяд 1924 года.



За 12 год, што прашлі з таго часу, у эканоміцы нашай краіны адбыліся карэнныя змены. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на

чале з таварышом Сталіным, социялізм у СССР перамог канчаткова і беззваротна.

Характарызуючы гэтыя змены, таварыш Сталін у сваім дакладзе адзначыў, што калі ў 1924 годзе мы мелі першы перыяд або пачатак нэпа, то цяпер мы маем апошні перыяд або канец нэпа.

> «Самае-ж галоўнае ў тым, што капіталізм выгнан зусім са сферы нашай прамысловасці, а социялістычная форма вытворчасці з'яўляецца цяпер безраздзельна пануючай сістэмай у галіне прамысловасці».

Мы маем цяпер самую буйную ў свеце, машынізаваную, узброеную новай тэхнікай социялістычную сельскую гаспадарку. Нашы калгасы маюць 316 тысяч трактароў магутнасцю ў 5 мільёнаў 700 тысяч конскіх сіл. Калгасы разам з соўгасамі маюць звыш 400 тысяч трактароў магутнасцю ў 7 мільёнаў 580 тысяч конскіх сіл.

Сектар аднаасобнай гаспадаркі займае не больш 2—3% усёй пасеўнай плошчы.

Тавараабарот знаходзіцца поўнасцю ў руках дзяржавы, каапарацыі і калгасаў.

> «Нарадзіўся і развіўся новы, совецкі гандаль, гандаль без спекулянтаў, гандаль без капіталістаў.
>
> Такім чынам, поўная перамога социялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам.
>
> А што гэта значыць?
>
> Гэта значыць, што эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а социялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага совецкага грамадства» **(Сталін).**

Усё гэта гаворыць аб тым, што мы маем цяпер новую, социялістычную экаyноміку, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, галечы і разарэння і дае грамадзянам усе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця.

На прыкладах паасобных рэспублік, прамысловых цэнтраў і раёнаў наглядна можна бачыць, якія велізарныя зрухі адбыліся ў нашай краіне за 19 год існавання Совецкай улады.

Так, калі ў 1913 годзе прамысловая прадукцыя ўсёй Расіі (у сучасных межах СССР) раўнялася 10 мільярдам 200 мільёнам рублёў, то валавая прадукцыя адной прамысловасці Украінскай ССР у 1936 годзе раўнялася 15 мільярдам рублёў.

Прамысловасць аднаго толькі горада Ленінграда ў 1936 годзе дала больш як на 10 мільярдаў рублёў прамысловай прадукцыі, г. зн. столькі, колькі давала ўся прамысловасць царскай Расіі ў 1913 годзе.

Прамысловая прадукцыя прадпрыемстваў Масквы ў 1936 годзе павялічылася ў 13 раз супроць 1913 года.

Кошт усёй прадукцыі прамысловасці Беларусі (у сучасных межах БССР) складаў у 1913 годзе 99 мільёнаў 900 тысяч рублёў, а ў 1936 г. прадпрыемствы социялістычнай прамысловасці Беларускай ССР даюць прадукцыю на 2 мільярды рублёў.

Грандыёзнасць змен, што адбыліся ў эканоміцы нашай ордэнаноснай Рэспублікі, як і ва ўсёй вялікай Совецкай краіне, мы наглядна бачым на прыкладзе нашага Аршанскага раёна.

У Оршы да рэволюцыі, як адзначана ў кнізе «Россия» пад рэдакцыяй Сямёнава, налічвалася «рознага роду прамысловых устаноў

больш як 40 з больш чым 200 рабочымі. Жыхароў у Оршы 15 тысяч. Прыбыткі горада складаюць 19 тысяч рублёў». Орша, як і ўся Беларусь, як гэта вобразна сказана ў пісьме беларускага народу таварышу Сталіну, прадстаўляла сабою «фабрыку квасу».

За 19 год совецкай улады зусім змянілася эканамічнае і культурнае аблічча Аршаншчыны. У Оршы вырасла 18 буйных прадпрыемстваў, на якіх працуе да 17.000 рабочых. У 1936 годзе, не лічачы прадпрыемстваў чыгуначнага вузла, яны далі прадукцыі на 50.518.965 рублёў.

У 27 саматужна-прамысловых прадпрыемствах раёна працуе 2.397 чалавек. Усе гэтыя прадпрыемствы карэнным чынам рэканструяваны і ў 1936 годзе далі прадукцыі на 18.590.600 рублёў.

На спрадвеку непраходных балотах цяпер вырас совецкі гігант— Першая раённая электрастанцыя БССР імя таварыша Сталіна. Па яе правадах пульсуе электраэнергія, якая дае жыццё сотням фабрык і заводаў буйнейшых рабочых цэнтраў рэспублікі—Віцебска, Магілева, Оршы, многіх гарадоў і мястэчак, калгасаў і соўгасаў.

На Асінаўскім балоце, дзе раней не ступала нага чалавека, цяпер вырас буйнейшы ў БССР тарфяны завод.

Пра Белдрэс і Асінторф складзены строфы ў пісьме беларускага народу таварышу Сталіну:

«Пад Оршай на чорных балотных прасторах
Збудован БелДРЭС і, заместа лучын,
Ён ходзіць па хатах—святло сваё дорыць,
Ён сіла матораў, ён сэрца машын.

Наш торф—гэта буйных багаццяў скарбніца
І спірт, і апал, і ўгнаенне, і газ;
Наш торф—энергетыкі нашай крыніца,
І торф—матар'ял будаўніцтва ў нас».

Пад праменнямі сонца іскрацца беласнежныя карпусы гігантаў першай сталінскай пяцігодкі: Аршанскі мясакамбінат з гадовай прадукцыйнасцю звыш 10.000.000 рублёў і Хлебакамбінат прадукцыйнасцю больш 2.000.000 рублёў.

У перыяд другой пяцігодкі пабудован сілікатны завод, які дае 14 мільёнаў штук сіліката.

Цагліна за цаглінай узнімаюцца ўгару карпусы магутнага ільнакамбіната ўсесаюзнага значэння.

Значна механізован цвіковы завод «Чырвоны Окцябр», які дае прадукцыі больш, як на 11 мільёнаў рублёў у год.

На месцы маленькай механічнай майстэрні вырас буйнейшы завод «Чырвоны змагар».

Прасторы сельскай гаспадаркі пакрыліся шырокім дыванам калгасных палёў.

Да 1917 года ў былым Аршанскім павеце 14 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак мела 45.655 дзесяцін дрэннай надзельнай зямлі, а 384 памешчыкі і 400 кулакоў уладалі звыш 278.288 дзесяцінамі адборнай зямлі. Зараз у Аршанскім раёне 201 калгас, за якімі замацавана бясплатна і навечна 104.020 гектараў зямлі. Акрамя таго, у раёне 5 соўгасаў.

Раён калектывізаваны на 95,4 процанта.

На палях соцыялістычнай вёскі нашага раёна працуе 112 трактароў, 2 камбайны і іншыя складаныя сельскагаспадарчыя машыны.

Электрыфікавана 44 калгасы. 2.000 калгасных двароў маюць лямпку Ільіча.

У 1937 годзе машына-трактарны парк у сувязі з арганізацыяй 3-й МТС павялічыцца. Усе калгасы будуць абслужаны машына-трактарнымі станцыямі.

Да 1917 года на тэрыторыі Аршанскага раёна было звыш 50 цэркваў, манастыроў, сінагог—ачагоў мракабесся—і ўсяго толькі 8 народных прыходскіх школ.

Цяпер Аршаншчына мае: пед'інстытут, педтэхнікум, сельгастэхнікум, вышэйшую і раённую калгасныя школы, 135 сярэдніх і ніжэйшых школ, дзе навучаецца 25.000 дзяцей на роднай мове; 221 бібліятэку; 198 чырвоных куткоў пры калгасах; гукавы кіно-тэатр. На месцы былога сабора красуецца зараз адзін з' лепшых у БССР аэраклубаў. 14 былых цэркваў на раёне ператвораны ў калгасныя клубы.
Ліквідавана ў асноўным няграматнасць.

Партыя і совецкая ўлада выхавала дзесяткі і сотні адданых будаўнікоў социялізма—новую працоўную інтэлігенцыю.

Паводле даных, на 1935 год з калгаснікаў нашага раёна скончылі совецкія вузы і тэхнікумы і цяпер працуюць на радзе ўчасткаў 96 інжынераў, 148 тэхнікаў, 83 аграномы, 124 зоатэхнікі, 386 настаўнікаў, 138 медработнікаў, 172 ветурачы і 279 чал. начальствуючага складу Чырвонай арміі.

Мы можам ганарыцца тым, што Аршанскі раён заваяваў пераходны чырвоны сцяг ЦК КП(б)Б і Соўнаркома БССР за паспяховае сканчэнне сельскагаспадарчага года. Аршанскі раён, як перадавы, на працягу трох год утрымлівае за сабою сцяг ЦВК БССР.

Нашы дасягненні ні ў якім разе не павінны выклікаць у нас галавакружэнне і самасупакоенасць. Наадварот, мы павінны яшчэ з большым энтузіязмам і энергіяй арганізоўваць працоўныя масы на выкананне задач, якія стаяць перад раёнам на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Зарукай далейшага палепшання нашай працы як у прамысловасці, так і сельскай гаспадарцы, з'яўляецца рост кадраў стаханаўцаў на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах. Імёны лепшых людзей нашага раёна шырока вядомы ўсёй Совецкай Беларусі. Працоўныя Аршанскага раёна ўправе ганарыцца сваімі ордэнаносцамі тт. Ражковым, Палітыка, Кедравай, Тіханскай, Пуцкалёвай.

У пісьме беларускага народу вялікаму Сталіну ордэнаносец тав. Ражкоў паказан як знатны чалавек Совецкай Беларусі, лепшы стаханавец калгаснай вёскі.

* * *

Канчатковая перамога соцыялізма і соцыялістычных форм вытворчасці над капіталістычнымі ў нашай краіне пацягнула за сабой і карэнныя змены ў соцыяльным складзе і класавай структуры совецкага грамадства. Канчаткова ліквідаваны эксплаататарскія класы.

«Не стала класа капіталістаў у галіне прамысловасці. Не стала класа кулакоў у галіне сельскай гаспадаркі. Не стала купцоў і спекулянтаў у галіне тавараабароту. Усе эксплаататарскія класы аказаліся, такім чынам, ліквідаваны.

Астаўся рабочы клас.
Астаўся клас сялян.
Асталася інтэлігенцыя» **(Сталін).**

Рабочы клас сам па сабе ўжо не той, якім ён з'яўляўся раней. З ходам перамогі соцыялізма і ён змяніўся. З класа, пазбаўленага пры капіталізме сродкаў і прыладаў вытворчасці, у выніку перамогі Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі ён стаў класам, які ўстанавіў сваю дыктатуру, каб падавіць супраціўленне капіталізма і ліквідаваць яго рэшткі, класам, які на чале свайго авангарда—комуністычнай партыі большэвікоў, у саюзе з асноўнымі масамі сялянства, будуе новае, бяскласавае соцыялістычнае грамадства.

«Пролетарыят СССР ператварыўся ў зусім новы клас, у рабочы клас СССР, які знішчыў капіталістычную сістэму гаспадаркі, які ўцвярдзіў соцыялістычную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і які накіроўвае совецкае грамадства па шляху комунізма.

Як бачыце, рабочы клас СССР гэта—зусім новы, вызвалены ад эксплаатацыі, рабочы клас, падобнага якому не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва» **(Сталін).**

Як у рабочым класе, так і ў сялянстве нашай краіны таксама адбыліся карэнныя змены. Наша совецкае сялянства, вызваленае ад эксплаатацыі,

... «у сваёй пераважнай большасці ёсць калгаснае сялянства, г. зн. яно базіруе сваю работу і сваё дастаянне не на аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай працы і сучаснай тэхніцы. Нарэшце, у аснове гаспадаркі нашага сялянства ляжыць не прыватная ўласнасць, а калектыўная ўласнасць, вырасшая на базе калектыўнай працы.

Як бачыце, совецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, падобнага якому яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва» **(Сталін).**

У совецкай інтэлігенцыі таксама адбыліся вялікія змены. За апошнія 12 год у рады совецкай інтэлігенцыі ўліліся новыя людзі з рабочых і сялян, выхаваных комуністычнай партыяй і совецкім урадам.

«80—90% совецкай інтэлігенцыі—гэта выхадцы з рабочага класа, сялянства і іншых слаёў працоўных... Раней яна павінна была служыць багатым класам... Цяпер яна павінна служыць народу, бо не стала больш эксплаататарскіх класаў. І іменна таму яна з'яўляецца цяпер роўнапраўным членам совецкага грамадства, дзе яна разам з рабочымі і сялянамі, у адной упражцы з імі, вядзе будоўлю новага, бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Як бачыце, гэта зусім новая, працоўная інтэлігенцыя, падобнай якой не знойдзеце ні ў адной краіне зямнага шара» **(Сталін).**

Падводзячы вынікі зменам у класавай структуры совецкага грамадства, таварыш Сталін адзначыў:

«... Грані паміж рабочым класам і сялянствам, роўна як паміж гэтымі класамі і інтэлігенцыяй—сціраюцца, а старая класавая выключнасць—знікае. Гэта значыць, што адлегласць паміж гэтымі соцыяльнымі групамі ўсё больш і больш скарачаецца».



За перыяд першай і другой сталінскіх пяцігодак на ранейшых пустырах выраслі новыя гарады: Магнітагорск (200 тысяч жыхароў), Караганда (150 тысяч жыхароў), Пракоп'еўск (100 тысяч жыхароў), Сталінагорск, Кіраўск, Комсамольск, Бярэзнікі і т. д.

Сярод шматлікіх новапабудованых заводаў, фабрык і іншых прадпрыемстваў выдзяляюцца такія гіганты, як чэлябінскі трактарны завод імя Сталіна, сталінградскі трактарны завод імя Дзержынскага, харкаўскі трактарны завод імя Орджанікідзе, горкаўскі аўтамабільны завод імя Молатава, маскоўскі аўтамабільны завод імя Сталіна, маскоўскі шарыкападшыпнікавы завод імя Кагановіча, Уфімскі маторны завод, Саратаўскі завод камбайнаў, Кузнецкі металургічны завод, Магнітагорскі металургічны завод, маскоўскае метро, Белморканал, будаўніцтва канала Волга-Масква, краматорскі завод цяжкага машынабудаўніцтва імя Сталіна, Кузбасвугаль, Карагандавугаль, авіяцыйныя заводы і многія іншыя прамысловыя гіганты соцыялістычнай прамысловасці, сярод якіх у БССР—Гомсельмаш, Магілеўская шоўкавая фабрыка, гомельскі шклозавод імя Сталіна, Бабруйскі лесакамбінат, Крычаўскі цэментны завод і т. д.

Наша совецкае грамадства стварыла соцыялістычны лад, г. зн. ажыццявіла першую або ніжэйшую фазу комунізма.

Для ўсіх грамадзян СССР практычна ажыццёўлены правы, аб якіх марылі лепшыя розумы чалавецтва.

Права на працу, за якое змагаўся пролетарыят з першых дзён свайго выступлення на гістарычнай арэне, запісана цяпер у Асноўны Закон совецкай дзяржавы.

«Грамадзяне СССР маюць права на адпачынак».

Дзяржава траціць мільярды рублёў на абслугоўванне адпачынку працоўных. Самы кароткі ў свеце рабочы дзень уведзен у нас.

«Грамадзяне СССР маюць права на матар'яльнае забяспечанне ў старасці, а таксама—у выпадку хваробы і страты працаздольнасці».

«Грамадзяне СССР маюць права на асвету».

Гэта права ў капіталістычным грамадстве з'яўляецца манаполіяй пануючых класаў.

«Жанчыне ў СССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця».

Якая іншая Канстытуцыя, у якой дзяржаве можа гарантаваць матар'яльныя і культурныя дастаткі, як гэта маем мы ў нашай Сталінскай Канстытуцыі?

Сталінская Канстытуцыя—гонар і радасць усіх працоўных СССР. Яна—вынік вялікіх гістарычных перамог, атрыманых нашай краінай пад мудрым вадзіцельствам геніяльнага Сталіна.

Выступаючы на з'ездзе па дакладу таварыша Сталіна, знатны сталевар тав. Мазай сказаў: «Сталінская Канстытуцыя—велізарнейшы дакумент усіх вякоў. Гэта—канстытуцыя рабочых, канстытуцыя кал-

гаснікаў. Мы ведаем, што яе пісаў наш любімы бацька—таварыш Сталін. Ён тварэц яе, і яму наша любоў і падзяка».

Настаўніца тав. Остахава ў сваім выступленні падкрэсліла: «Пройдуць вякі, але ў гісторыі чалавецтва нашы дні застануцца незабыўнымі. Праз стагоддзі чалавецтва пранясе нашу радасць сённешняга дня, нашу радасць сённешніх перамог, у сэрцах мільёнаў працоўных застануцца назаўсёды вогненныя словы таварыша Сталіна».

Беларускі народ у сваім пісьме вялікаму Сталіну гаворыць:

«Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў
Узнімае народы нявольных краін.

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ».

Імя «Сталін» стала сімвалам барацьбы і перамог для ўсіх народаў вялікага Совецкага Саюза, для працоўных усяго свету.

У нас, у краіне соцыялізма, дасягнут вышэйшы ўзровень дэмакратыі, не фармальнай, паказной, буржуазнай, а сапраўднай дэмакратыі для ўсіх працоўных, незалежна ад полу, нацыянальнасці і расы.

«Расія будзе самай яркай дэмакратыяй зямлі»—прадказваў у гады рэакцыі слаўны буравеснік рэволюцыі, вялікі пролетарскі мастак слова М. Горкі.

Няма граніц шчасцю і радасці многанацыянальнага згуртаванага народу СССР, які мае самую паслядоўную ў свеце дэмакратычную Канстытуцыю. Гэты геніяльны дакумент увойдзе ў гісторыю ў непарыўнай сувязі з імем вялікага Сталіна, які поплеч з Леніным расціў і пеставаў комуністычную партыю, збіраў сілы рабочага класа, арганізаваў перамогу над буржуазіяй і абараніў маладую совецкую ўладу ад безлічы ворагаў.

Пад кіраўніцтвам Сталіна працоўныя нашай краіны разграмілі контррэволюцыйны трацкізм і зіноўеўшчыну разам з іх агентурай—правымі апартуністамі.

Пад слаўным кіраўніцтвам нашай партыі і яе мудрага правадыра «жыць стала лепш, жыць стала весялей».

Працоўныя масы Беларусі заўсёды будуць памятаць 1919 год, калі вялікі Сталін прыязджаў у Менск і асабіста кіраваў яго абаронай. Беларускі народ піша таварышу Сталіну:

«Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог,
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню. расцвіла як дзяржава,
Ад шчырага сэрца ўдзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ».

Пышным цветам радасці і шчасця расцвіла наша вялікая, горача любімая радзіма.

* * *

У абмеркаванні праекта Сталінскай Канстытуцыі прынялі ўдзел 46.500 грамадзян нашага раёна, г. зн. 87% выбаршчыкаў. Унесена 540 прапаноў і дадаткаў да праекта.

Зараз па ўсяму раёну з велізарным энтузіязмам вывучаюцца непарыўна звязаныя між сабою дакументы нашай эпохі: прамова таварыша Сталіна і зацверджаная З'ездам новая Канстытуцыя.

Працоўныя масы свае пачуцці, думкі і падзяку тварцу новай Канстытуцыі выразілі ў народнай творчасці. Прыводзім некаторыя з запісаных у калгасах нашага раёна частушак:

Весялей іграй, гармошка,
Песні славы нашых дзён,
Канстытуцыю мы маем—
Вялікі сталінскі закон.
У ёй сталінскія словы
Зоркай яркаю гарэць.
Чалавек, ён мае права,
Жыццё, шчасце будаваць.
І на працу—гордасць нашу—
Нам прадстаўлены права.
Сталін родны даў нам гэта,—
Канстытуцыя дала.
На рабоце, на вучобе,
Мы, стаханаўцаў сям'я,
На асвету права маем,—
Канстытуцыя дала.
Эх, жыццё! Якая радасць,
Найшчаслівейшая пара
Адпачынак кожны мае,—
Канстытуцыя дала.
За Канстытуцыю, за радасць нашу,
За славу шчасця нашых дзён,
Дзякуй, дзякуй, родны Сталін,
За выдатнейшы Закон.

Задача партыйных, савецкіх і прафесіянальных арганізацый: узмацніць палітычную, культурна-масавую, агітацыйна-прапагандысцкую работу; рашуча палепшыць работу савецкага апарата; чутка прыслухоўвацца да патрэб насельніцтва, ажывіць работу саветаў секцый, дэпутацкіх груп, наладзіць рэгулярную справаздачнасць перад выбаршчыкамі; рашуча, смела, па-большэвіцку разгарнуць крытыку і самакрытыку нашых недахопаў; цвёрда праводзіць у жыццё Сталінскую Канстытуцыю, бязлітасна караць тых, хто хоць-бы ў найменшай меры паспрабаваў парушыць ці сказіць яе; арганізаваць далей-

шае глыбокае вывучэнне кожнага артыкула Сталінскай Канстытуцыі ва ўсіх цэхах, брыгадах, звеннях, школах, арцелях і т. д.; узмацніць абаронную работу, каб зрабіць непрыступнай крэпасцю кожнае прадпрыемства і калгас.

* * *

Запісаныя ў Сталінскай Канстытуцыі велізарнейшыя перамогі соцыялізма не даюць спакою азвярэлым фашыстам. Яны не перастаюць марыць аб захваце совецкай зямлі.

Японскаяваеншчына сваімі налётамі на нашы далёка-ўсходнія рубяжы імкнецца справакаваць вайну. Але нашы слаўныя пагранічнікі заўсёды даюць ёй добра зразумець, што трэба «для сваіх прагулак. падалей выбраць закаулак».

Прымаючы Канстытуцыю, совецкі народ даў свяшчэнную клятву берагчы яе як зрэнку вока і абараняць да апошняй каплі крыві.

Совецкі Саюз—адзіная краіна, якая вядзе да канца паслядоўную палітыку міру.

Але дзень, калі крывавыя фашысцкія гады паспрабуюць парушыць нашу мірную працу, будзе днём іх пагібелі.

СССР—цвярдыня, моцная спаянасцю і сапраўдным совецкім патрыятызмам сваіх грамадзян.

Тав. Любчэнка ў сваім выступленні на VIII З'ездзе Советаў прывёў яркі таму прыклад. Адна з прызыўных камісій г. Кіева не прыняла ў армію шофера-ўдарніка Якаўлева, прадаставіўшы яму ільготу, як адзінаму сыну старухі-маткі. На заўтра-ж з'явілася ў камісію маці Якаўлева і заявіла: «Вы закрываеце майму сыну шлях да шчасця. Дайце яму магчымасць навучыцца са зброяй у руках абараняць нашу радзіму».

Мы моцны любоўю і спачуваннем дзесяткаў мільёнаў працоўных за межамі нашай краіны. Яскравейшым прыкладам служыць велізарнейшая сімпатыя да нашай краіны гераічнага іспанскага народу, які вядзе барацьбу з фашызмам.

У барацьбе з ворагам мы не будзем адзінокі: чорныя, жоўтыя, чырвоныя, белыя людзі розных краін, усе сыны рабочага класа будуць разам з намі абараняць вялікі Совецкі Саюз.

Мы моцны цэнтралізаванай урадавай уладай, безгранічным аўтарытэтам кіраўнікоў комуністычнай партыі і нашага дарагога, любімага Сталіна.

Калі патрабуецца ад нас абараніць сваю радзіму, мы зробім гэта з дапамогай нашай добра абучанай і ўзброенай пяхоты, ліхой конніцы, магутных лінкораў, крэйсераў, мінаносцаў, падводных лодак, тысяч баявых самалётаў, танкаў і магутнай артылерыі.

У совецкага народу ёсць што абараняць, ёсць каму абараняць, ёсць чым абараняць.

Беларускі народ у пісьме вялікаму Сталіну гаворыць:

«А нашы граніцы бетонам заліты,
Мы чуйна вартуем совецкі фарпост,
Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты,
Касцямі палягуць яны на пагост.

І мірныя людзі—іх сотні імёнаў—
Вартуюць нядрэмна свае рубяжы.
А ў часе трывогі паўстануць мільёны.
І вораг не пройдзе совецкай мяжы».

Аб непрыступную цвярдыню СССР разаб'юцца мутныя хвалі ашалелага фашызма. Упэўненасць у гэтым яшчэ больш мацнее ў нас ад усведамлення таго, што кіраўніцтва гэтай цвярдыняй, «яе ключы знаходзяцца ў руках такога каменданта, як наш слаўны, вялікі, наш родны таварыш Сталін».

На страх ворагам, на радасць працоўным усяго свету, наш непераможны карабль—СССР з верным капітанам на чале—вялікім Сталіным імчыцца ўперад па сусветнаму акіяну праз соцыялізм к комунізму.

---

**М. Клімчук**

Сакратар Магілеўскага РК КП(б)Б

# Партарганізацыя Магілеўшчыны ў барацьбе за датэрміновае выкананне плана

У 1936 стаханаўскім годзе перад прамысловасцю Магілеўшчыны была пастаўлена задача—даць краіне прадукцыі на 148.084.000 рублёў. Прырост прадукцыі ў параўнанні з 1935 годам павінен быў скласці 38,3 проц. Перад нашай прамысловасцю паўстала задача далейшага асваення праектных магутнасцей, тэхнікі вытворчых працэсаў, выяўлення ўнутраных рэзерваў і т. д. Адначасова трэба было павысіць якасць прадукцыі, якая на радзе прадпрыемстваў была нізкай.

У выніку барацьбы за выкананне гэтых задач партыйныя і непартыйныя большэвікі Магілеўшчыны 4 снежня 1936 года рапартавалі ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб датэрміновым выкананні гадавога плана, а роўна праз месяц—аб выкананні ўзятага на сябе абавязацельства: выпусціць к 1 студзеня 1937 года на 15 мільёнаў рублёў дадатковай прадукцыі.

Такім чынам, план 1936 стаханаўскага года выканан на 110,2 проц., або на 163 мільёны руб. Прырост прадукцыі супроць 1935 года склаў 41 мільён рублёў.

Нядрэнных паказчыкаў дабіліся мы і ў галіне палепшання якасці. Шоўкавая фабрыка выпуск прадукцыі першага гатунку павысіла на 1,5 проц., завод імя Сталіна і рымарная фабрыка значна павысілі гатунковасць прадукцыі.

Гэтых поспехаў магілеўская прамысловасць дабілася на аснове рэалізацыі пастановы снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарту.

Стаханаўскі рух ахапіў усе ўчасткі нашай прамысловасці. Калі к канцу 1935 года, акрамя ініцыятараў стаханаўскага руху на Магілеўшчыне (Астапава—аўтарэмзавод, Дзядзюлі—шоўкавая ф-ка, Мядзведзева—завод імя Сталіна), налічвалася стаханаўцаў 200—300 чал., то к канцу 1936 года армія стаханаўцаў—рэволюцыянераў соцыялістычнай вытворчасці—вырасла на 4002 чал., што складае 43,1 проц. усіх рабочых, занятых у прамысловасці. Акрамя таго, налічваецца 2052 ударнікі, што складае 22 проц. вытворчых рабочых.

Партыйныя і профсаюзныя арганізацыі большасці прадпрыемстваў знішчылі перашкоды, якія тармазілі разгортванне стаханаўскага руху (сабатаж, дрэнная арганізацыя рабочага месца, бескультур'е і т. п.), узначалілі энтузіязм мас і накіравалі яго на ператварэнне прадпрыемстваў у суцэльна стаханаўскія. Рад прадпрыемстваў

мы ўжо можам назваць стаханаўскімі: скурзавод імя Сталіна, які выканаў праграму на 120,5 проц., мясакамбінат, які выканаў другую пяцігодку за 4 гады, рымарную фабрыку, машынабудаўнічы завод імя Дзімітрава, якія выканалі гадавы план на 143,4 проц. На гэтых прадпрыемствах колькасць стаханаўцаў і ўдарнікаў дасягае 80—90 проц.

Гэтых поспехаў мы дабіліся шляхам шырокага разгортвання ўнутрыпартыйнай выхаваўчай работы, накіраванай на павышэнне палітычнага ўзроўню і выхавання комуніста ў духу ідэйнай непрымірымасці ў барацьбе са злейшымі ворагамі партыі і народу—трацкісцка-зіноўеўскім ахвосцем і правымі адшчапенцамі; шляхам арганізацыі палітычна завостранай, ідэйна насычанай партыйнай прапаганды, старанная падрыхтоўкі і правядзення партсходаў, партдаручэнняў, умацавання дысцыпліны, павышэння авангарднай ролі комуніста і яго класавай пільнасці.

Праверка і абмен партдакументаў паслужылі магутным рычагом палепшання ўсёй унутрыпартыйнай работы. Магілеўская партыйная арганізацыя ачысціла свае рады ад чуждых элементаў і прамых ворагаў партыі, ад асколкаў разбітых рэстаўратараў капіталізма—трацкісцка-зіноўеўскай сволачы, неразззброіўшыхся бундаўцаў і людзей, выпадкова трапіўшых у партыю.

На нашы прадпрыемствы ў свай час прабраліся такія элементы, як авантурыст Дубаў (дырэктарам мэблевай фабрыкі). Дубаў глушыў рабочую ініцыятыву, тармазіў стаханаўскі рух, свядома перашкаджаў росту прадукцыйнасці працы. Дубаў з партыі выключан і з работы зняты. Пасля ўмацавання партарганізацыі і змены кіраўніцтва фабрыка паспяхова закончыла 1936 год.

Доўга арудваў на трубаліцейным заводзе «комуніст» Палевіч. Ён называў сябе і рабкорам, і стаханаўцам, настройваў рабочых супроць кіраўніцтва завода і ўсёй партарганізацыі, сабатаваў і выступаў супроць выканання новаўведзеных норм выпрацоўкі. Прыкрываючыся высокім званнем рабкора, ён стараўся адцягнуць кіраўніцтва завода ад вырашэння асноўных задач. З Палевіча маска сарвана. Калектыў вызваліўся ад непатрэбных заводу людзей, і работа пашла на ўздым. Аналагічныя факты былі на цагельных заводах № 7, № 4 і іншых прадпрыемствах.

Выкінуўшы нягодны хлам, партарганізацыі здолелі згуртаваць вакол сябе лепшых людзей і павесці іх у бой за аўладанне стаханаўскімі метадамі работы, за ператварэнне прадпрыемстваў у стаханаўскія. Па-новаму расстаўлены сілы, лепш вывучаецца беспартыйны актыў, канкрэтней і насычаней вядзецца палітагітацыя. Перабудова сістэмы палітагітацыі дала станоўчыя вынікі. Раней чытчыкамі былі непадрыхтаваныя людзі. Зараз кожная партыйная арганізацыя вылучыла палітагітатараў, якія працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам сакратара парткома або парторга. Для палітагітатараў арганізоўваліся раённыя семінары. Зараз такія семінары працуюць на прадпрыемствах (аўтарэмзавод, завод імя Сталіна, швейная, шоўкавая ф-ка).

Адной з форм уцягнення шырокіх мас рабочых у палітычнае і гаспадарчае жыццё з'яўляюцца палітдні. Да іх вядзецца старанная падрыхтоўка, загадзя збіраюцца пытанні. Палітдні прыносяць многа каштоўных прапаноў у галіне лепшай арганізацыі вытворчасці, пастаноўкі масава-выхаваўчай работы і т. п.

Шырокае абмеркаванне праекта Сталінскай Канстытуцыі выклікала небывалы ўздым творчага энтузіязму сярод працоўных нашага раёна. Вытворчымі перамогамі яны стараліся даказаць сваю аддадасць нашай партыі і тварцу гістарычнага дакумента—любімаму таварышу Сталіну. К дню зацверджання Сталінскай Канстытуцыі 60 проц. прадпрыемстваў рапартавалі аб датэрміновым выкананні гадавых заданняў (завод імя Дзімітрава, трублітзавод, шорная, швейная фабрыка і т. д.).

Рост стаханаўскага руху выклікаў неабходнасць павысіць авангардную ролю комуніста. Партарганізацыі пачалі практыкаваць самасправаздачы комуністаў. Работа гэта спачатку вялася па шаблону, самасправаздачы ператвараліся ў біяграфічныя даклады, выносіліся фармальныя рашэнні «прыняць да ведама». Але паступова мы дабіліся таго, што самасправаздачы сталі бальшэвіцкім метадам выхавання комуністаў. Старанная падрыхтоўка да справаздачы, прадуманыя ўказанні партыйнай арганізацыі спрыялі таму, што комуніст быстра рос і займаў сапраўды авангардную ролю. Так, на шоўкавай фабрыцы комуніст Талкачоў не працаваў над сабой, дрэнна выконваў норму. Праверкай было выяўлена, што да тав. Талкачова нячула падышлі, некалькі раз перакідвалі з месца на месца, а гэта адбівалася на яго рабоце і палітычным росце. Зараз ён з'яўляецца стаханаўцам і ўпарта працуе над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню.

За гэты перыяд партарганізацыя вырасціла дзесяткі партыйцаў, якія нядрэнна павялі партыйна-масавую работу на прадпрыемствах. Да іх адносяцца тт. **Ніскіна**—работніца матальнага корпуса шоўкавай фабрыкі, **Лабякоў**—СУЗ, **Каганоўскі**—сакратар парткома завода імя Сталіна, **Фурман**—сакратар парткома трублітзавода. **Воўшын**—парторг друкарні, **Мазурава**—сакратар парткома кандзіцерскай фабрыкі.

Соцыялістычнае спаборніцтва Магілева з Бабруйскам спрыяла датэрміноваму выкананню гадавога плана раённай прамысловасцю. Рад прадпрыемстваў не толькі асвоіў новыя нормы, але і перакрыў іх. Калектыў завода імя Сталіна бліскуча справіўся з новымі нормамі, якія былі павялічаны ў сярэднім на 70 проц. Зараз на заводзе толькі 8 чалавек не выконвае нормы.

На шоўкавай фабрыцы сутачнае заданне ў 1935 г. складала 4 тоны шоўку, а ў 1936 г. было даведзена да 8 тон. Стаханаўскі рух на фабрыцы апракінуў старыя ўяўленні аб прадукцыйнасці працы. Калі прадзільшчык абслугоўваў раней дзве старонкі (адну прадзільную машыну), то цяпер ён абслугоўвае 5 старонак.

У 1936 годзе трубаліцейны завод упершыню з моманту пуску ў эксплаатацыю выканаў гадавы план датэрмінова: замест 10.000 тон па плану выпусціў 11.300 тон труб.

Рэзка змяніўся знешні выгляд вытворчых участкаў, рабочых месц. Павысілася культурнасць у абыходжанні з абсталяваннем, інструментам. У цэхах—чыстата, кветкі. Рацыяналізатарская работа нашых вынаходцаў дала многа новага ў рэканструкцыі вытворчых працэсаў. На рымарнай фабрыцы абароты швейных машын з 800 даведзены да 1200, на шоўкавай фабрыцы абароты прадзільных цэнтрафуг з 5800 даведзены да 7200. Многа каштоўнейшых прапаноў унесена на аўтарэмзаводзе, заводзе імя Сталіна, швейнай фабрыцы і іншых прадпрыемствах.

Барацьба за план, разгортванне партыйна-масавай работы забяспечылі рост новых выдатных людзей, энтузіястаў соцыялістычных метадаў працы. На шоўкавай фабрыцы брыгадзір прадзільшчыкаў Паша **Андрэйчыкава** заслужыла аўтарытэт у стаханаўскай рабоце і была абрана дэлегатам на XII Усебеларускі, а потым на VIII Надзвычайны З'езд Советаў СССР. Тысячы рабочых нашага раёна з вялікай увагай праслухалі даклад аб З'ездзе, аб вялікім Сталіне, аб лепшых яго саратніках тт. Молатаве, Варашылаве, Літвінаве і іх выступленнях.

Рабочыя скурзавода імя Сталіна тав. **Мядзведзеў** перакрыў ў 4 разы праектную магутнасць мездрыльнай машыны. Рад яго рацыяналізатарскіх прапаноў у галіне скуранай вытворчасці даў павышэнне прадукцыйнасці працы. На працэсе кантоўкі сыравіны прадукцыйнасць павысілася на 50 проц. Тав. Мядзведзеў таксама з'яўляецца дэлегатам XII Усебеларускага З'езда Советаў.

На трубаліцейным заводзе комуніст тав. **Кавалёў** дабіўся не толькі перавыканання сваёй нормы, але і ўнёс рад прапаноў, рацыяналізуючых адліўку труб.

На швейнай фабрыцы парторг змены тав. **Бекераў** дабіўся перавыканання новых норм усёй зменай. Палітагітатар тав. **Дучкова** выконвае норму на 213 проц. На шоўкавай фабрыцы кандыдат партыі тав. **Круглікава** дае 900 маткоў шоўку замест нормы 700. Такіх таварышоў мы маем зараз сотні і тысячы.

Культурна-матар'яльнае становішча рабочых-стаханаўцаў значна палепшылася. 500—800 руб. у месяц—часты заработак на нашых прадпрыемствах. Для рабочых-стаханаўцаў адрамантавана 1008 кватэр.

Сваіх поспехаў прамысловасць Магілеўскага раёна дабілася, дзякуючы канкрэтнаму кіраўніцтву і дапамозе ЦК КП(б)Б і асабіста таварыша **Гікало.**

Выкананне плана 1936 года не дае ніякага права супакойвацца. Большэвікі Магілёўшчыны ведаюць, што выкананне дзяржаўных планаў—гэта мінімум таго, што трэба даць. Стаханаўскі рух нязмерна пашырае нашы вытворчыя магчымасці. Вывучыць іх, ускрыць, занявца рацыяналізацыяй тэхналагічных працэсаў, якія павышаюць прадукцыйнасць і якасць працы,—вось адна з важнейшых нашых задач. Нельга таксама забываць, што не ўсе прадпрыемствы справіліся з вытворчым планам 1936 года. Аўтарэмзавод гадавую праграму выканаў толькі на 95 проц., цагельныя заводы № 3 і № 4 таксама не выканалі ўстаноўленага плана.

1937 год ставіць перад намі больш складаныя задачы. План па прамысловасці павялічыўся на 40 проц. супроць 1936 года. Мы павінны даць прадукцыі, арыентыровачна, на 207 мільёнаў руб. супроць 148 мільёнаў руб. у 1936 годзе. Партыйныя арганізацыі нашых прадпрыемстваў абавязаны змагацца за далейшае палепшанне ўнутрыпартыйнай работы, работы з беспартыйнай масай, шырэй разгортваць стаханаўскі рух, укараняць культуру на вытворчых участках, дабівацца высокай якасці прадукцыі.

Заданні 1937 года мы безумоўна выканаем і перавыканаем. На гэта нас мабілізуе Сталінская Канстытуцыя, нязмерная любоў і адданасць працоўных мас нашай партыі, яе геніяльнаму кіраўніку і арганізатару соцыялістычных перамог—вялікаму Сталіну.

———

І. Сыраежка

Начальнік палітаддзела соўгаса „Чырвоны Окцябр“

# Вопыт работы нашай партарганізацыі

Соўгас «Чырвоны Окцябр», Чэрыкаўскага раёна, арганізован у 1931 г. на стэпавай, зусім спустошанай зямлі, якая да рэвалюцыі эксплаатавалася багацеямі горада Чэрыкава. «Чырвоны Окцябр»—адзін з буйнейшых соўгасаў Совецкай Беларусі: агульная плошча яго—2170 га, уборачная—1936 га. У мінулым соўгас меў дрэнную рэпутацыю сярод калгасаў і навакольнага насельніцтва. Ураджаі былі нізкія, жывёлагадоўля не наладжана, арганізацыйна і гаспадарча соўгас быў слаба ўмацован.

З 1934 года становішча рэзка мяняецца. Праведзеныя партыяй і ўрадам мерапрыемствы па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню соўгаса спрыялі значнаму павышэнню ўраджайнасці палёў і развіццю жывёлагадоўлі. У параўнанні з 1933 годам ураджайнасць зернавых культур павялічылася на 250 проц., бульбы—на 200 проц. Адначасова павысіўся тэмп развіцця жывёлагадоўлі і росту таварнай прадукцыі. Колькасць зданай дзяржаве мясной прадукцыі ўзрасла на 196 проц., зернавой—на 100 проц. Гаспадарча-эканамічны рост соўгаса спрыяў палепшанню матар'яльнага добрабыту рабочых і служачых. За гэты перыяд заработная плата сталых рабочых узрасла на 156 проц., служачых—на 100 проц., трактарыстаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў—на 200 проц.

На 500 проц. у параўнанні з 1933 г. павялічылася колькасць рагатай жывёлы, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні рабочых соўгаса. Па свіннях і хатняй птушцы павелічэнне яшчэ большае. Зараз у соўгасе няма такіх рабочых, якія-б не мелі свіней і птушкі. Больш 70 проц. рабочых маюць рагатую жывёлу.

Такія, параўнальна невялікія, дасягненні мы маем у соўгаснай і рабочай эканоміцы за апошнія гады. Мы гаворым—параўнальна невялікія, бо па ўсяму Совецкаму Саюзу дасягненні соўгасаў значна большыя. Наша партыйная арганізацыя яшчэ не выканала поўнасцю патрабаванняў партыі і ўрада. Але і гэтыя дасягненні не прышлі самі па сабе, а з'явіліся вынікам агромнага тэхнічнага і культурнага росту ўсяго Совецкага Саюза і ўпартай барацьбы партарганізацыі і рабочых соўгаса. За апошнія 3 гады наш соўгас атрымаў больш 10 трактароў, 2 складаныя малатарні і многа розных складаных і поўскладаных машын. Сілу тэхнікі мы асабліва адчуваем таму, што да гэтага часу мелі невялікую колькасць трактароў, ды і тыя былі замежных марак.

Соўгасная партыйная арганізацыя за гэты час правяла вялікую работу па ачыстцы гаспадаркі ад класава-чуждых элементаў. Палеп-

шылася палітычная і культурна-масавая работа сярод рабочых і служачых. Колькасна і якасна ўзнялася прадукцыйнасць працы.

У мінулыя гады трактарысты і конныя аратыя ўзворвалі глебу не глыбей як на 10 см. Зараз мы арэм выключна трактарамі на 15—16 см., а ў некаторых месцах і глыбей. Раней соўгас вельмі зацягваў свае пасеўныя і ўборачныя работы, прычым 40—50 проц. гэтых работ выконвалася з дапамогаю калгасаў. У апошнія-ж 2 гады соўгас спраўляецца ўласнымі сіламі, карыстаючыся староннняй дапамогай толькі пры ўборцы зернавых. Соўгас не мала дапамог навакольным калгасам кармамі і асабліва тэхнічнаю сілай. У 1935 і 1936 гг. соўгасныя трактары прапрацавалі ў калгасах больш 300 дзён.

У сучасны момант соўгасная партыйная арганізацыя складаецца з 6 комуністаў. Работа вядзецца ў планавым парадку. Кожны комуніст выконвае пэўныя даручэнні, якія кантралююцца партсходам і асабіста парторгам. Начальнік палітаддзела, акрамя сваёй непасрэднай работы, кіруе школай соўгаснага партактыва, гуртком спачуваючых, у летні час быў прымацован да трактарнага парка. Парторг тав. Грамакоў кіруе гуртком спачуваючых пры школе камбайнераў. Памочнік начальніка па комсамолу тав. Маркевіч кіруе комсамольскім гуртком бягучай палітыкі. Дырэктар соўгаса тав. Гаспадарык кіруе комсамольскай школай па вывучэнню гісторыі партыі. Тав. Баравік прымацован да комсамольскай арганізацыі.

Партыйныя сходы праводзяцца па строга ўстаноўленаму плану два разы ў месяц. Павестка дня ўказваецца ў плане і за 3—4 дні даводзіцца да ведама ўсёй партарганізацыі. У 1933—34 г. праводзіліся галоўным чынам паседжанні палітаддзела, або, як яго часам называюць,—«пяцёркі». Астатнія члены партыі часта не ведалі рашэнняў, якія выносіў палітаддзел. Разбіраліся пераважна гаспадарчыя пытанні. Цяпер у абмеркаванні ўсіх палітычных і гаспадарчых пытанняў прымае ўдзел не толькі «пяцёрка», але і ўсе члены партыі. У 1936 г. партарганізацыя на сваіх сходах абмеркавала ўсяго 49 пытанняў, з іх 38 партыйна-палітычных і 10 гаспадарчых. Калі раней выступалі 2—3 «штатныя актывісты», то цяпер выступаюць амаль усе члены партыі. Пасяджэнні палітаддзела зведзены да мінімума.

За 1935—36 гг. партыйная арганізацыя соўгаса, на аснове рашэння XVII партз'езда, стварыла групу спачуваючых. Прыём праводзіўся выключна ў індывідуальным парадку на адкрытых партыйных сходах. За гэты час прынята ў групу 13 чал., з іх 4 стаханаўцы, астатнія—ударнікі. Усе спачуваючыя працуюць непасрэдна на вытворчасці, пераважна ў асноўным—свінагадоўчым цэху. Для спачуваючых створаны 2 гурткі, адным кіруе начальнік палітаддзела, другім—дырэктар соўгаса. У гуртках галоўным чынам вывучаецца праграма і статут партыі, праводзіцца азнаямленне з рашэннямі партыі і ўрада, з пытаннямі бягучай палітыкі. Для добра асвоіўшых праграму і статут ствараецца гурток па вывучэнню гісторыі партыі.

Усе спачуваючыя наведваюць адкрытыя партыйныя сходы. Акрамя таго, са спачуваючымі праводзяцца спецыяльныя нарады для абмеркавання рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, пытанняў стаханаўскага руху, перадавіц газеты «Правда» аб контррэвалюцыйнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскай банды. Такія нарады маюць вялікае значэнне. Яны выхоўваюць у спачуваючых вялікую нянавісць да заклятых ворагаў народу. Калі ў соўгасе з'явіўся трацкіст Гаўрылюк, спачуваючы тав. Раснецаў заявіў аб гэтым началь-

ніку палітаддзела і рэдактару шматтыражкі. Пасля з'яўлення артыкула ў нашай газеце Гаўрылюк быў выкрыт як вораг совецкай улады і партыі, як закляты вораг народу.

Група спачуваючых упарта працуе над павышэннем свайго палітычнага і агульнага ўзроўню. Сярод спачуваючых ёсць стаханаўцы, якія ўдзельнічалі на ўсебеларускіх нарадах перадавых майстроў сельскай гаспадаркі. Кожны спачуваючы выпісвае газету.

Спачуваючыя ўзнялі свае вытворчыя паказчыкі. Трактарыст тав. Шах у 1935 г. выпрацаваў за змену 416 га на трактар, а ў 1936 г.—каля 500 га. Свінарка тав. Ларысава, якая вылучана цяпер брыгадзірам адкормачнай брыгады, дабілася павышэння жывой вагі свінога пагалоўя ў сярэднім на 35 проц., прычым прырост па асобных групах даходзіць да 900 грам на галаву ў суткі. Каваль тав. Раснецаў штодня перавыконвае норму пры добрай якасці работы.

Усе спачуваючыя нядрэнна спраўляюцца з даручэннямі. 2 чал. з'яўляюцца чытчыкамі газет у брыгадах, 1—членам рэдкалегіі насценнай газеты, 1—старшынёй РКК, 1—профоргам, 1 кіруе лікбезам.

* * *

У соўгасе—адна партыйная школа, 3 комсамольскія, 2 гурткі для спачуваючых, 1 зоатэхнічны гурток, 3 школы лікбеза, 1 агратэхнічны гурток. Ва ўсіх школах і гуртках займаецца 126 чал., што складае 70 проц. рабочых і служачых соўгаса.

У партыйнай школе займаецца 6 комуністаў. Школа пачала працаваць у снежні 1935 г. і закончыла праграму па ленінізму ў кастрычніку 1936 г. Летам 1935 г. школа амаль не займалася, слухачы прыходзілі часта непадрыхтаванымі. У 1936 г. школа працавала нармальна як у зімні, так і ў летні час, 4 разы ў месяц. У летні час заняткі праводзіліся ўвечары, каб не адрывацца ад гарачай сельскагаспадарчай работы.

Спачатку з'явіліся было «тэорыі», што ўлетку займацца немагчыма, што праграма вялікая і цяжкая, што старыя галавы не пераварацць агромнага матар'ялу. Частка комуністаў вывучала ўжо гісторыю партыі і заяўляла, што добра яе ведае. Партарганізацыя павяла барацьбу з такімі разважаннямі. У працэсе заняткаў выявілася, што гісторыю партыі ў мінулыя гады вывучалі недастаткова, праграму не канчалі, зусім не вывучалі пасляоктябрскага перыяду, багата насычанага рэволюцыйнымі падзеямі, барацьбой з рознымі ўхіламі, асабліва з трацкізмам і правым апартунізмам.

«Старыя галавы», як паказалі заняткі, добра ўспрымаюць вучэбны матар'ял. Усё залежыць ад арганізаванасці вучобы, ад метадаў работы. У нашай школе кіраўнікі карыстаюцца метадам лекцыйгутарак. Слухачы загадзя ведаюць тэму наступнай лекцыі і забяспечваюцца праграмай. Кіраўнік робіць уступную гутарку, пасля якой слухачы задаюць пытанні па няясных для іх раздзелах тэмы. У канцы лекцыі кіраўнік дае слухачам кантрольныя пытанні па тэме. На наступным занятку адзін са слухачоў робіць даклад, а астатнія дапаўняюць яго або ўносяць папраўкі. Такім парадкам разбіраюцца ўсе пытанні, пакуль не вычэрпваецца тэма. У заключэнне кіраўнік робіць падагульняючую гутарку, дае характарыстыку кожнаму слухачу: хто як засвоіў тэму, у каго заўважаны недахопы ў падрых-

тоўцы і ў выступленнях. Канспекты слухачоў кіраўнік збірае для праверкі, адзначаючы недахопы і ўпушчэнні ў пісьмовай рабоце.

У пачатку вучобы адставалі тт. Бугдзіловіч, Баравік і Маркевіч. Яны атрымалі індывідуальную дапамогу, і школа закончыла сваю праграму без адстаючых. Усе слухачы гавораць, што вывучэнне гісторыі партыі дало ім многа новага. Яны даведаліся аб тым, як на працягу ўсёй сваёй гісторыі партыя на чале з Леніным і Сталіным вяла непрымірымую жорсткую барацьбу супроць Троцкага, Зіноўева, Каменева і іншых здраднікаў і двурушнікаў. Закончыўшы праграму, школа пачала паўтараць пройдзенае, каб яшчэ больш замацаваць набытыя веды.

Недахопам у нашай партыйнай вучобе трэба лічыць тое, што не ўсе слухачы выкарыстоўваюць рэкамендаваны праграмаю матар'ял, большасць не скарыстоўвае мастацкую літаратуру, частка несур'ёзна падыходзіць да складання канспектаў, бегла рыхтуецца да заняткаў толькі па падручніку Кнорына.

* * *

У комсамольскай арганізацыі соўгаса—31 чал. У параўнанні з 1935 г. арганізацыя вырасла на 25 проц. Сярод комсамольцаў—4 стаханаўцаў, астатнія—ударнікі. Для кіраўніцтва і дапамогі да комсамольскай арганізацыі прымацован член партыі тав. Баравік.

2—3 гады назад комсамольская арганізацыя не карысталася патрэбным аўтарытэтам і папулярнасцю ў моладзі і наогул рабочых соўгаса, бо сярод яе членаў былі нездаровыя настроі. Няўплата членскіх узносаў па 4—5 месяцаў (тав. Салянкоў), адмаўленне выконваць распараджэнні дырэктара, выпіўка (Катрулін і Маркевіч), спазненне на работу, прагулы, ненаведванне комсамольскіх гурткоў і сходаў—усе гэтыя нездаровыя з'явы ў большасці зжыты.

Цяпер працуюць тры комсамольскія гурткі: адзін па гісторыі партыі і два па бягучай палітыцы. У палітвучобу ўцягнута таксама частка некомсамольскай моладзі. З палітычнай літаратуры, акрамя матар'ялаў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, а таксама апошняга з'езда ВЛКСМ, прапрацаваны даклад тав. Мікаяна аб развіцці лёгкай прамысловасці, тав. Орджанікідзе аб стаханаўскім руху, артыкулы з журнала «Большевик»—«Праца пры капіталізме і праца соцыялістычная», аб працэсе над трацкісцка-зіноўеўскай бандай, аб праекце Канстытуцыі, закон аб забароне абортаў. Акрамя палітычнай, моладзь чытае розную мастацкую літаратуру. За летні час калектыўна прачытаны: «Маці» Горкага, «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Дрыгва» Я. Коласа, «Вёска» Пушкіна і рад іншых мастацкіх артыкулаў і ўрыўкаў.

Даклад таварыша Сталіна на VIII З'ездзе Советаў і зацверджаная Канстытуцыя прапрацоўваюцца і вывучаюцца зараз яшчэ глыбей.

На вытворчасці добрыя паказчыкі даюць комсамолкі Галайда, Аксенава, Юрчанка. Гэтыя таварышы вырошчваюць парасят так, што ў 2-месячным узросце яны важаць па 15-16 кгр., а на адкорм даюць парасят у 4-месячным узросце па 30 з лішнім кгр. вагою.

У 1935 г. комсамольская арганізацыя многа дапамагла ў вучобе дзецям соўгасных рабочых. З адстаючых 10 дзяцей не закончылі навучальнай праграмы толькі 2 вучняў. Гэта работа працягваецца і сёлета. У 1936 г. сіламі комсамольцаў пасаджана больш 200 дрэў.

З адмоўных бакоў работы комсамола трэба адзначыць частыя пераносы гуртковых заняткаў, 80-процантнае наведванне гурткоў, недастатковая паспяховасць у вучобе. На гэтыя з'явы як след не рэагуюць ні комсамольская ні партыйная арганізацыі. Няма сумнення ў тым, што партыйная арганізацыя ліквідуе гэтыя недахопы ў бліжэйшы час і выведзе нашу комсамольскую арганізацыю ў перадавыя рады беларускага і ўсесаюзнага комсамола.

* * *

Стаханаўцаў у соўгасе 13 чал., ударнікаў—28. Работу са стаханаўцамі вядзе член партыі. У летні час праведзены тры спецыяльныя нарады, на якіх прапрацаваны даклад тав. Орджанікідзе аб развіцці стаханаўскага руху, матар'ялы аб трацкісцка-зіноўеўскім працэсе, рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), рад артыкулаў з газеты «Правда». Праз кожныя тры дні адбываюцца вытворчыя нарады. Усе стаханаўцы забяспечаны газетамі.

Тт. Шах і Прымакова ўдзельнічалі на беларускіх злётах стаханаўцаў сельскай гаспадаркі. Цялятніца тав. Прымакова за два гады вырасціла 150 цялят без адыходу. Трактарыст тав. Шах у мінулым годзе ўзворваў за адну змену каля 500 га.

Паасобныя ўдарнікі выпрацоўвалі па касьбе падвойную норму—0,75 і больш га ў дзень. Асабліва трэба адзначыць тт. Іванова Мітрафана, Развенкава, Зубанцову Александру, Іванову Ганну, якія перавыконвалі норму ўборкі зернавых.

Вялікім недахопам нашай работы з'яўляецца той факт, што пры наяўнасці ў соўгасе 180 рабочых і служачых мала вырашчана стаханаўцаў і ўдарнікаў, што мы недаацанілі ўдарнікаў, як рэзерву для папаўнення стаханаўскіх радоў. Гэты недахоп партыйная арганізацыя цяпер улічыла і паставіла перад сабою задачу: узмацніць партыйна-масавую работу, уцягнуць усіх ударнікаў у вучобу і ў гэтым годзе ператварыць усіх рабочых і служачых соўгаса ва ўдарнікаў, а ўдарнікаў—у стаханаўцаў.

* * *

Партыйна-масавая работа сярод беспартыйных рабочых накіравана на выкананне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад нашай гаспадаркай. Работа праводзіцца па загадзя выпрацаванаму плану. Ужо два гады працуюць месячныя курсы па падрыхтоўцы агітатараў, бяседчыкаў, чытчыкаў і работнікаў насценных газет. Праз курсы прапушчана 38 чал.

Для кіраўніцтва агітатарамі і чытчыкамі да іх прымацоўваюцца члены партыі па ўчастках. У летні час кожнага з прымацаваных інструктуе начальнік палітаддзела аб тым, якая гутарка павінна праводзіцца на яго ўчастку. На наступны дзень прымацаваны комуніст расказвае начальніку аб выніках гутаркі і пытаннях, якія цікавілі рабочых. У залежнасці ад гэтага намячаецца чарговая тэма.

Улік чытак і гутарак вядзецца ў спецыяльнай запісной кніжцы. За адзін толькі III квартал праведзена 81 гутарак і чытак: аб Сталінскай Канстытуцыі 10, аб контррэволюцыйнай дзейнасці трацкізма 10, па мастацкай літаратуры 26, на іншыя палітычныя тэмы 35.

Праект Сталінскай Канстытуцыі мы разбіралі па асобных арты-

кулах, супастаўляючы жыццё рабочых і сялян былой царскай Расіі і капіталістычных краін з нашым светлым і радасным сёння. Артыкул 118 ілюстравалі ўрыўкамі з «Пашэхонскай старыны»: «Цёценька Анфіса Парфір'еўна», «Узорны гаспадар». Для ілюстрацыі артыкула 122 прыводзілі прыклады з паднявольнага жыцця Японіі, былой царскай Расіі, зачыталі і вытрымкі з твораў паэта Некрасава.

Да артыкула 134 прывялі прыклады таго, як праводзяцца выбары ў капіталістычных краінах—Амерыцы, Англіі—і ў нашым Саюзе.

Такім чынам кожны артыкул вялікага дакумента нашай эпохі быў па магчымасці глыбока даведзен да ўсведамлення кожнага рабочага. Гутаркі праходзілі вельмі ажыўлена. Выступалі рабочыя розных нацыянальнасцей. Рабочы тав. Рэсніцаў, па нацыянальнасці яўрэй, расказаў аб тым, як яго бацька вандраваў з месца на месца, як памешчык Васілеўскі не раз біў яго да страты прытомнасці. Работніцы жанчыны прыводзілі прыклады са свайго беспрасветнага мінулага, гаварылі аб бяспраўнасці і здзеках, аб тым, што раней не было дзе шукаць управы.

Выкліканы Сталінскай Канстытуцыяй вялікі ўздым рабочых адлюстраваўся на павышэнні норм. Палепшылася работа ў галіне свінагадоўлі, дзе галоўным чынам працуюць жанчыны. Некаторыя з іх амаль ліквідавалі адыходы, здавалі на адкорм паасобныя экземпляры свіней 4-месячным узросце па 40—42 кгр. вагой.

Сярод беспартыйных рабочых прапрацаваны таксама рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), пастанова Камісіі савецкага кантроля аб разборы скарг працоўных, закон аб забароне абортаў, даклад тав. Мікаяна аб развіцці лёгкай прамысловасці, даклад тав. Орджанікідзе аб развіцці стаханаўскага руху, артыкулы «Правды»: «Храбрыя з храбрых», «Фашызм—гэта вайна, соцыялізм—гэта мір», «Ачагі вайны», «Да новых перамог», «Ворагі народу злоўлены з палічным», «Завершанае кола здрадніцтва», «Пільнасць на кожным паасобным участку», «Умець распазнаваць ворага».

З мастацкай літаратуры рабочым прачытана: «Смерць селяніна», «Ерына маці салдацкая», «Песня Еромушкі», «Калістрат», «Маці» Горкага, «Як гартавалася сталь» Остроўскага, «Дрыгва» Якуба Коласа, «Чверць каня» Некрасава, урыўкі з «Пашэхонскай старыны» Шчэдрына; з замежнай літаратуры—урыўкі з кнігі Анры Барбюса «Сталін», праведзена антырэлігійная гутарка на тэму «Абрады і іх шкоднасць».

Праведзены калектыўныя паходы ў кіно на фільмы «Чапаеў» і «Вясёлыя рэбята». Акрамя таго, у соўгасе за III квартал дэманстраваліся 3 кінофільмы і праведзены 2 пастаноўкі гуртка самадзейнасці.

Большасць рабочых і служачых (87 проц.) ахоплена падпіскай на газеты. Усяго выпісваецца 160 экз. газет: «Звязды»—69, «Совхозной газеты»—60, «Чырвонай змены»—10, «Комсомольской правды»—7, «Известий»—2 і інш. Палітаддзельская шматтыражка выходзіць 4 разы ў месяц тыражом у 300 экз. За III квартал 1936 г. выпушчана 47 нумароў насценных газет.

Практыкуем вывешванне на відным месцы розных артыкулаў на палітычныя тэмы. У жніўні было рэкамендавана і вывешана 34 артыкулы: з «Совхозной газеты»—«Будзем змагацца за права падпісаць рапарт Усесаюзнаму З'езду Советаў», з «Комсомольской правды»—«Вышэй рэволюцыйную пільнасць», з газеты «Звязда»—«Выкрыць

ворага да канца», «Дастойна сустрэць гадавіну стаханаўскага руху» і т. п.

Раней мы мелі толькі адзін чырвоны куток на цэнтральнай сядзібе. Цяпер у нас два чырвоныя куткі, клуб, бібліятэка ў 2058 тамоў і дзве бібліятэчкі-перасоўкі: на свінцэху і конным двары. Маем медыцынскі пункт, які абслугоўваецца ўрачом-спецыялістам, дзіцячыя яслі, дзіцячы сад.

У мінулыя гады з соўгаса быў вялікі адсеў рабочых. За 1933 г. соўгас пакінула 25 чал., а за 1935—36 г. па свайму жаданню пакінула соўгас 4 чал., з іх двое вярнуліся назад. Зараз на асноўным участку соўгаса—свінаферме працуе ад 3 да 5 год не менш 75 проц. рабочых, а астатнія—ад 1 да 2 год.

Пры ўсіх дасягненнях у нас яшчэ нямала вялікіх недахопаў. Хоць соўгас з кожным кварталам зніжае адыход свінога пагалоўя, усё-ж ён выражаецца не менш як у 25 проц. Адыход тлумачыцца галоўным чынам тым, што як дырэкцыя, так і іншыя адказныя работнікі свінафермы, праяўляюць мала гаспадарчага клопату. Так, у 1935 г. з-за несвоечасовасці рамонту свінарнікаў свінні доўгі час заставаліся ў лагерах. Падскочылі сільныя марозныя вятры, і большасць свіней, асабліва маладняк, прастудзілася. Дражджаванне кармоў дагэтуль ігнаравалася зоатэхнікам і недаацэньвалася дырэкцыяй соўгаса. Толькі па настаянню рабочых і палітаддзела дражджаванне ўведзена для ўсяго свінога пагалоўя.

Былы зоатэхнік Шалатонін цэлымі тыднямі не бываў на кармёжках. У 1935 г. па віне дырэкцыі соўгаса была памарожана частка бульбы. Дырэктар соўгаса тав. Гаспадарык працуе многа, але без сістэмы, без планавасці, больш саматужным спосабам.

Таксама мелі месца нядбайныя адносіны да добрабыту рабочых. Ударніку-трактарысту тав. Самсонаву прараб пры папушчэнстве дырэкцыі на працягу двух месяцаў не сабраўся паправіць комін. Загадчык фермы аблічыў стаханаўку Прымакову і толькі па настаянню палітаддзела зрабіў пераразлік і звярнуў ёй недаплачаныя грошы.

Парторг соўгаса, нібы з-за перагружанасці рознымі даручэннямі райкома мала ўвагі ўдзяляе партыйнай і гаспадарчай рабоце ў соўгасе. Прымацаваны да комсамола тав. Баравік і пампаліт па комсамолу тав. Маркевіч мала ўвагі ўдзялялі выхаванню комсамола, а таксама павышэнню свайго палітычнага ўзроўню. Тав. Гаспадарык слаба кіраваў школай спачуваючых. У соўгасе вырашчана мала стаханаўцаў. Таксама невялікая група спачуваючых. Мала зроблена для развіцця стаханаўскага руху ўглыб і ўшыр.

У гаспадарчых адносінах наш галоўны недахоп заключаецца ў тым, што соўгас дагэтуль не стаў рэнтабельным. Новаму наркамату Беларускай рэспублікі па соўгасах неабходна будзе перагледзець напрамак гаспадаркі нашага соўгаса на прадмет яго змянення. Мы са свайго боку высоўваем прапанову змяніць напрамак гаспадаркі соўгаса са свінагадоўчага на жывёла-свінагадоўчы, што не толькі не адаб'ецца на выкананні дзяржаўных планаў па мясу, але дасць магчымасць падзешавіць мясную прадукцыю і хутчэй зрабіць соўгас рэнтабельным. Па-другое, пры жывёльным напрамку гаспадаркі соўгас здолее лепш угнойваць глебу і павысіць ураджайнасць, што забяспечыць яго ўласнымі канцэнтратамі і паступова павялічыць развіццё свінагадоўчай гаспадаркі.

**А. Любовіч**

Старшыня Дзяржплана БССР

# План народнай гаспадаркі БССР на 1937 год

К 1937-му, завяршаючаму году другой пяцігодкі народная гаспадарка нашай соцыялістычнай радзімы дасягнула вялікага ўздыму.

Працоўныя Совецкага Саюза ведаюць, што народныя камісары прамысловасці, транспарту і гандлю рапартавалі вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну і кіраўніку Совецкага ўрада таварышу Молатаву аб датэрміновым выкананні вытворчых планаў 1936 года. У нагу з усім Совецкім Саюзам ідзе і БССР. Тт. Гікало і Галадзед 10 снежня 1936 года рапартавалі аб датэрміновым выкананні гадавога плана нашай прамысловасцю.

Прадукцыйнасць працы ў мінулым годзе значна перавысіла планавыя намёткі. Па мясцовай прамысловасці яна ўзрасла на 18,2% супроць намечаных планам 16%. Прадпрыемствы саюзнай, рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці далі дадатковай прадукцыі больш як на 135 млн. рублёў. Не малыя поспехі мае і сельская гаспадарка.

Майстры соцыялістычнага земляробства, не гледзячы на выключна неспрыяльныя метэаралагічныя ўмовы, паказалі ўзоры барацьбы за высокую ўраджайнасць. Паасобныя калгасы далі рэкордныя паказчыкі ўраджайнасці, як 40—50 цнт. зернавых з гектара, 500—560 цнт. бульбы, 12—13 цнт. ільнавалакна.

Крэмлёўскія нарады ўзнялі на нябачаную вышыню энтузіязм калгасных мас, які выліўся ў шырокую хвалю стаханаўскага руху—у рух тысячніц, пяцісотнікаў і т. д. Стаханаўскі рух прынёс сельскай гаспадарцы і новую соцыялістычную агратэхніку—сістэму безупыннага і многакратнага ўздзеяння на ўсе бакі жыцця раслін: падкормка пасеваў, мульчыраванне і т. д. Значныя поспехі дасягнуты і ў выкарыстанні сельскагаспадарчай тэхнікі. Паасобныя трактарысты дабіліся выпрацоўкі на адзін 15-сільны трактар 1000—1300 га. Выкананы планы развіцця буйнай рагатай жывёлы, аўцагадоўлі і іншых галін сельскай гаспадаркі.

Дасягненні першага стаханаўскага года падрыхтавалі моцны грунт для новых перамог, стварылі базу для датэрміновага выканання не толькі аб'ёмных паказчыкаў плана другой пяцігодкі, але і для выпуску высокаякаснай прадукцыі па строга намечанаму асартыменту.

План 1937 года разлічан на максімальнае асваенне ўскрытых стаханаўскім рухам магутнасцей і рэзерваў у самых рознастайных галінах народнай гаспадаркі. Агульны аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці

і сельскай гаспадаркі БССР дасягне трох мільярдаў рублёў супроць 2,38 млрд. у 1936 г.—рост на 27,2%. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці вырасце на 21,2%, дасягаючы сумы ў 2,2 млрд. рублёў. Валавая прадукцыя рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці складзе 1,188 млрд. рублёў—рост на 25,9 проц. Не меншыя тэмпы росту дасць промкааперацыя—25,9%. Але па раду галін валавая прадукцыя павінна даць больш высокі рост, супроць сярэдняга процанта, устаноўленага для ўсёй рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці ў цэлым. Так, валавая прадукцыя прамысловасці будматар'ялаў павінна ўзрасці на 34,7 проц., рэспубліканскай тарфянай—на 31,0 проц., тэкстыльнай—на 59,8 проц., абутковай—на 30,8 проц.

Запланаваны аб'ём прамысловай вытворчасці забяспечвае выкананне 2-га пяцігадовага плана, за выключэннем швейнай прамысловасці, план якой змяніўся па БССР з прычыны новага размяшчэння яе па Саюзу. Такія галіны прамысловасці як будматар'ялы, металаапрацоўка, торф, тэкстыльная, трыкатажная, шкляная, дражджавая, піваварная і безалкагольная перавыконваюць заданні другой пяцігодкі. Машынабудаўніцтва і металаапрацоўка выканалі пяцігодку ў чатыры гады, а будматар'ялы—у тры гады.

План другой пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы перавыконваецца па ўраджайнасці, пагалоўю буйнай рагатай жывёлы і ўсіх відах жывёлагадоўлі ў соцыялістычным сектары.

Наколькі дастатковы заданні па прамысловай вытворчасці ў 1937 годзе? Па ўказанню партыі і ўрада—яны мінімальны і не толькі могуць быць выкананы, але і перавыкананы. «Правда» у навагоднім перадавым артыкуле аб плане на 1937 год гаворыць: «Ёсць магчымасць датэрміновага ажыццяўлення другой пяцігодкі ў цэлым. Парукай гэтаму—перамога стаханаўскай працы». Гэта ў роўнай меры датычыць і прамысловасці БССР. Далей «Правда» указвае, што намечаная на 1937 год лічба агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі ў 92,7 млрд. рублёў (у цэнах 1926-27 года) «не здавальняе зараз, і яна можа і будзе значна большай».

Хуткі ўздым новай хвалі соцыялістычнага спаборніцтва і разгортванне стаханаўскага руху дапамогуць значна перавысіць планавыя намёткі на 1937 год. Аднак яны не абмяжоўваюцца адным толькі аб'ёмам вытворчасці як у грашовым, так і ў натуральным выражэнні. Якасць прадукцыі, яе камплектнасць, асартымент—арганічная, неадлучная частка плана 1937 года. Кожная галіна прамысловасці мае канкрэтныя заданні ў гэтым напрамку. План будзе лічыцца выкананым толькі пры ўмове захавання якасна высокага асартыменту.

Новаўскрытыя рэзервы, паспяховае асваенне тэхнікі, рост арганізаванасці ўсяго працэсу вытворчасці ў соцыялістычнай гаспадарцы ствараюць усе прадпасылкі для вытворчасці выключна высокай па якасці прадукцыі, якая-б адпавядала як запросам прамысловасці, так і шырокіх мас працоўных горада і вёскі.

Распрацаваны ў плане 1937 года падрабязны асартымент вырабаў для кожнага прадпрыемства дазваляе без затруднення акрэсліць прадукцыю па кожнаму з новастворыных прамысловых наркаматаў.

Прамысловасць БССР у 1937 г. будзе змагацца за выпрацоўку:

| | |
|---|---|
| Электраэнергіі . . . . . . . | 430 млн. квт. гадз. |
| Торфу . . . . . . . . . | 2,73 млн. тон |
| Труб чыгунных . . . . . . . | 12 тыс. тон |
| Станкоў металарэжучых . . . . . | 4815 штук |

| | |
|---|---|
| Ільнацерабілак Сергеева і Антонава . . | 400 штук |
| Пасуды ацынкаванай . . . . . . . | 800 тон |
| Вагаў таварных і сталовых . . . . | 16 тыс. штук |
| Фанеры . . . . . . . . . . . | 210 т. кб\|метр |
| Фасфарытнай мукі . . . . . . . | 40 тыс. тон |
| Цэменту . . . . . . . . . . | 175 „ „ |
| Вапны . . . . . . . . . . . | 133,7 „ „ |
| Чарапіцы . . . . . . . . . . | 13,75 млн. штук |
| Цэглы апаленай . . . . . . . . | 585 „ „ |
| Шкла бемскага . . . . . . . . | 8300 паг. метр. |
| Шкла лямпавага . . . . . . . . | 49,5 млн. штук |
| Гатунковай шкляной пасуды. . . | 26,42 „ „ |
| Бутэлек . . . . . . . . . . . | 22,0 „ „ |
| Крэсел . . . . . . . . . . . | 221 тыс. штук |
| Сталоў . . . . . . . . . . . | 32 „ „ |
| Шафаў . . . . . . . . . . . | 22,5 „ „ |
| Штучнага шоўку . . . . . . . | 4871 тон |
| Баваўняна-папяровай тканi . . . . | 7,98 млн. метр. |
| Панчошных вырабаў . . . . . . | 2 млн. пар |
| Абутку (усяго па НКМП) . . . . | 6,0 „ „ |
| Кандзіцерскіх вырабаў . . . . . . | 16,62 тыс. тон |

Планам намечана нарыхтаваць 4,82 млн. кубаметраў і вывезці 5,3 млн. кубаметраў драўніны. Рэзка павялічваецца выраб мэблі для абсталявання кватэр, школ, дзіцячых устаноў і т. д.

Рост прадукцыйнасці працы на аснове далейшага разгортвання стаханаўскага руху з'яўляецца асноўнай і рашаючай крыніцай павелічэння аб'ёму прадукцыі. На прадпрыемствах, якія ўваходзілі ў сістэму Наркаммясцпрома, яна павялічыцца на 20 проц. Разам з тым стаханаўскі рух дазваляе прад'явіць больш высокія патрабаванні да скарыстання абсталявання, эканомнага выдаткавання электраэнергіі, паліва і сыравіны, што павінна знізіць сабекошт усёй таварнай прадукцыі не менш як на 6 проц., без уліку змены цэн.

Сярэднегадавая заработная плата аднаго рабочага вырасце на 5,2 проц. у параўнанні з узроўнем апошніх месяцаў 1936 года. Фонд заработнай платы вырасце на 8,7 проц. Аднак асновай росту заработнай платы ў прамысловасці павінна быць павышэнне прадукцыйнасці працы і зніжэнне цэн. Гэта крыніца, разам з ростам фонду заработнай платы, павінна забяспечыць далейшае павышэнне матар'яльнага дабрабыту рабочых прамысловасці БССР.

Усебаковы ўздым усіх галін народнай гаспадаркі ў першым стаханаўскім годзе адбываўся на аснове росту прадукцыйнасці працы і лепшага выкарыстання тэхнікі. З самага пачатку другога стаханаўскага года стаханаўскі рух набыў новы размах. У соцыялістычнае спаборніцтва ўключыўся цэлы паток прадпрыемстваў. У адказ на зварот тав. Орджанікідзе заводы абароннай прамысловасці абяцаюць партыі не толькі датэрмінова выканаць вытворчую праграму і даць лепшыя якасныя паказчыкі, але і скараціць затрату рабочага часу на кожны выраб. Гэта абавязацельства гаворыць аб тым, што заводы абароннай прамысловасці аўладалі не толькі тэхнікай сваіх агрэгатаў, але і канструкцыяй складаных вырабаў, што яны павышаюць магутнасць вырабляемых матораў пры зніжэнні іх вагі і выдатку гаручага. Партыйныя і беспартыйныя большэвікі абароннай прамысловасці

і іншых галін соцыялістычнай індустрыі ахоплены сталінскім пафасам асваення тэхнікі.

Метады, якімі прадпрыемствы абароннай прамысловасці будуць дабівацца новых перамог, павінны легчы ў аснову арганізацыі усёй вытворчасці ў 1937 годзе. У сваіх абавязацельствах партыі і ўраду работнікі абаронных прадпрыемстваў гавораць: «Новых вытворчых поспехаў мы дабіліся ўкараненнем тэхнічнай культуры, планавасцю і роўнамернасцю работы, усямерным прымяненнем стаханаўскіх метадаў, ліквідацыяй штурмаўшчыны, саматужніцтва, упартай барацьбою з бракам».

Прамысловасць БССР патрабуе асабліва шырокага ўкаранення тэхнічнай культуры, ліквідацыі саматужніцтва, найбольш поўнага аўладання тэхналогіяй вытворчасці.

Энергетычная база прамысловасці і сельскай гаспадаркі БССР у 1937 годзе павінна павысіцца на 17% установленай магутнасці нашых электрастанцый і дасягнуць выпрацоўкі 430 млн. квт. гадзін. У параўнанні з рэгортваннем прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці нельга не адзначыць усё-ж слабы рост энергетычнай базы. Над далейшым развіццём яе прыдзецца сёлета сур'ёзна папрацаваць. У першую чаргу неабходна ўмацаваць аснову энергетыкі—апалавую базу.

Сярод гаспадарнікаў БССР да апошняга часу існуе думка, што нам няма чаго асабліва непакоіцца аб перспектывах разгортвання паліўнай базы, бо мы маем вялікія лясы і шмат торфу. Пастанова саюзнага ўрада аб ахове лясоў рэзка б'е па гэтых адсталых настроях. Паліўны баланс БССР з года ў год перабудоўваецца ў напрамку пераважнага скарыстання торфу, асабліва ў прамысловасці. У 1937 годзе павінна рэзка ўзняцца ўдзельная вага торфу ў паліўным балансе, прымаючы пад увагу, што БССР па запасах торфу і яго якасці можа быць справядліва названа тарфяным данбасам.

У плане 1937 года намечана здабыць 2,73 млн. тон торфу—на 25,3% больш 1936 года. Аднак і гэта агромная лічба не можа ў поўнай меры задаволіць патрэб нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Доля торфу ў паліўным балансе БССР вырастае ад 29,6% у 1935 г. да 41,8% у 1937 г. У прамыслова-тэхнічным ужыванні доля дроў выражаецца толькі 19,8%, а торфу—56,3%. Ужо ў мінулым годзе мы вымушаны былі вывезці з УССР 30 тыс. тон торфу. На 1937 год патрэбнасць у прывазным торфе дасягае 100 тыс. тон. Тым часам мы можам самі лёгка здабыць гэту колькасць торфу. Трэба толькі па-большэвіцку разгарнуць работу над узмацненнем механізацыі торфаздабычы, пашырэннем сезона, павышэннем эфектыўнасці агрэгатаў, рэзкім зніжэннем сабекошту прадукцыі.

У 1936 г. толькі Белторфпромсаюз значна перавыканаў праграму здабычы, даўшы 504 тыс. тон торфу. Асноўная-ж арганізацыя—Белторф, якая ў параўнанні з промкааперацыяй мае багацейшую тэхнічную базу, патрабавала ўвесь час уздзеяння ЦК КП(б)Б.

У БССР існуюць два інстытуты торфу: пры Акадэміі навук і пры інстытуце прамысловасці. Кабінетная, адарваная ад патрэб соцыялістычнага будаўніцтва «работа» гэтых устаноў не спрыяла ўдасканаленню тэхналагічных працэсаў здабычы торфу.

Праз галаву навукова-тэхнічных работнікаў, без усякай ініцыятывы і ўдзелу Белторфа цёплатэхнік праф. Одэльскі вывучыў метады абязводжвання торфу і распрацаваў вельмі простую сістэму тэрмічнай апрацоўкі. Гэты спосаб штучнай сушкі торфу дае магчымасць на

150 дзён працягнуць сезон. Кіраўнікі нашых торфарганізацый і навукова-тэхнічныя работнікі павінны безадкладна прымяніць новыя метады, каб перавыканаць у 1937 г. план здабычы і выключыць неабходнасць увозіць торф у БССР. У плане торфаздабычы на 1937 год выдзелены неабходныя капіталаўкладанні, якія могуць і павінны быць асвоены на працягу паўтара месяца і даць вялікі эфект у росце нашай паліўнай базы.

* * *

Асобае месца ў прамысловасці БССР займаюць прадпрыемствы райвыканкомаў і горсоветаў. У мінулым годзе яны павінны былі даць валавай прадукцыі на 58.300.000 рублёў, але не выканалі план ні ў цэлым, ні па асобных галінах. Рад галін выключнага для жыцця раёна значэння недавыконваў сваю праграму сістэматычна на працягу ўсяго года. Будматар'ялы, харчовая і ў прыватнасці півапарная безалкагольная прамысловасць, сельгасмукамолле—далі паказчыкі ніжэй сярэдніх па ўсёй прамысловасці РВК. Піваварная прамысловасць выканала план на 36,3%, а ганчарная, якая мае выключныя магчымасці развіцця ва ўсіх раёнах,—толькі на 7,5%. У плане 1937 года праграма прамысловасці РВК і горсоветаў зніжана, хоць фактычна гэта і дае рост на 29,7% супроць 1936 года.

Для падцягвання прамысловасці РВК і горсоветаў ні мясцовае кіраўніцтва, ні Наркаммясцпром фактычна нічога не зрабілі. На гэтым участку не чуваць было ні аб стаханаўскім руху, ні аб соцспаборніцтве. Гэта пляма на фоне агульнага росту прамысловасці БССР павінна быць на працягу 1937 года поўнасцю змыта.

Нізавая прамысловасць павінна адыграць вялікую ролю ў агульным уздыме прамысловай вытворчасці. Яна мае ўласную багатую базу—мясцовую сыравіну. Сваёй прадукцыяй яна можа задаволіць у першую чаргу патрэбы ў шырокім жыллёвым і соцыяльна-культурным будаўніцтве. Без вялікіх затрат і хутка ва ўсіх раёнах БССР можна наладзіць вытворчасць будматар'ялаў, вапны, цэглы, чарапіцы. Тым часам у 11 раёнах зусім няма мясцовай прамысловасці. Задача РВК, горсоветаў, Наркаммясцпрома не толькі выканаць невялікі па аб'ёму план 1937 года, але і развіць прамысловасць на базе мясцовай сыравіны, шырока разгарнуць стаханаўскі рух на прадпрыемствах нізавой прамысловасці.

* * *

У барацьбе за сталінскія 7—8 млрд. пудоў зярна сельская гаспадарка БССР у 1937 годзе павінна давесці ўраджай не менш як да 12,5 цнт. зернавых, 4 цнт. ільнавалакна і 145 цнт. бульбы. У абсалютных лічбах гэта значыць, што БССР павінна даць у 1937 г. 2,93 млн. тон зярна, 97,3 тыс. тон ільнавалакна і звыш 9 млн. тон бульбы.

Каб вырашыць гэту задачу, неабходна поўнасцю выканаць намечаныя планам агратэхнічныя мерапрыемствы: вывезці на поле 15,45 млн. тон гною, 9 млн. тон торфу, завапнаваць 35 тыс. га глебы, правесці гатунковы пасеў на плошчы 633 тыс. га і павялічыць лубінныя папары на 53,4% супроць 1936 года.

З вясны 1937 года ўступае ў строй 18 новых МТС. Трактарны парк вырастае больш як на 1500 новых машын, з іх: 225 магутных ЧТЗ і 800 гусенічных СТЗ новай маркі. Амаль патройваецца парк камбайнаў, больш чым падвойваецца парк бульбяна-ўборачных машын, канавакапалак і т. д. Асабліва вырастае парк машын па апрацоўцы найбольш працаёмкіх тэхнічных культур.

У 1937 г. неабходна дабіцца ў сярэднім не менш 400 га выпрацоўкі на калёсны трактар. Гэта заданне зусім рэальна, бо расце армія трактарыстаў-стаханаўцаў. Многія з іх у мінулым годзе выпрацавалі больш 1000 га на калёсны трактар. Стаханаўскі рух у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, бясспрэчна, забяспечыць выкананне сталінскай задачы аб вытворчасці 7—8 млрд. пудоў зярна.

У 1937 годзе конскае пагалоўе павінна павялічыцца на 10,6%, буйнай рагатай жывёлы—на 16,5%, у тым ліку кароў—на 13,4%. Яшчэ больш павінна вырасці свіное пагалоўе—на 27,3%, у тым ліку па калгасна-сялянскаму сектару—на 30,2%. Намячаецца рост авечак на 29,8%, у тым ліку па калгасах—на 41,3%.

Сярэдні ўдой на адну фуражную карову павінен скласці 1300 літраў (рост на 26,2%), сярэдняя жывая вага адной галавы буйнай рагатай жывёлы—215 кгр. (рост на 13,2%), сярэдняя вага свінні—98 кгр. (рост на 12,6%).

Цэнтральнай задачай з'яўляецца павышэнне ўраджайнасці. Вялікі рост механізацыі, у тым ліку і спецыяльнай, стварае ўсе прадпасылкі для асваення новых пасеўных плошчаў. Планам намечана падняць 70 тыс. га цаліны.

Актуальнейшай задачай з'яўляецца палепшанне добрабыту калгаснага сяла. З будаўніцтвам новых калгасных цэнтраў і сцягваннем хутароў вырастае патрэба ў развіцці вытворчасці будматар'ялаў. Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб будаўніцтве 1000 цэгла-чарапічна-вапенных калгасных заводаў выканана толькі ў нязначнай меры. У 1937 годзе намечана пабудаваць у калгасах 780 цагельных, 191 чарапічны і 68 вапенных заводаў, якія ў выстарчальнай колькасці будуць забяспечаны якасна высокай мясцовай сыравінай.

Напружаная вялікая работа павінна быць праведзена для выканання плана будаўніцтва. Капітальныя ўкладанні па ўсіх раздзелах народнай гаспадаркі і культуры БССР складаюць на 1937 г. (разам з саюзнымі прадпрыемствамі) не менш 350 млн. руб. Вялікае будаўніцтва намечана па соцыяльна-культурных раздзелах, асабліва па асвеце і ахове здароўя, дзе найбольшая доля капіталаўкладанняў прыпадае на будаўніцтва школ, радзільных дамоў, яслей, дзіцячых садоў.

Па раздзелу прамысловасці капіталаўкладанні на 1937 г. роўны 144,7 млн. руб., у тым ліку па саюзных прадпрыемствах—104,7 млн. руб., па рэспубліканскіх і мясцовых—40 млн. руб. Агульныя капіталаўкладанні ў прамысловасць на 1937 год больш плана 1936 г. на 11 млн. рублёў.

Што асабліва выдзяляецца ў капітальным будаўніцтве прамысловасці?

Па НКЛегпрому працягваецца будаўніцтва Аршанскага ільнакамбіната, куды ў 1937 г. павінна быць уложана 47 млн. руб., рэканструіруецца фабрыка імя Кагановіча з капіталаўкладаннямі ў 5 млн. руб. Капіталаўкладанні па Наркамхарчпрому павінны скласці 13,7 млн. руб., прычым асноўнымі прадпрыемствамі, што будуюцца

і заканчваюцца пабудовай, з'яўляюцца кансервовы камбінат у Рагачове, на які адпускаецца 3,5 млн. руб. у 1937 г., а таксама косцеапрацоўчы завод ў Магілеве.

У прамысловасць РВК і горсоветаў укладаецца 5,41 млн. рублёў, у тым ліку 4 млн. руб. на будматар'ялы, 550 тыс. на торф і 600 тыс. на сельгасмукамолле. У промкааперацыю ўкладаецца 1,92 млн. руб.

У план капітальнага будаўніцтва ўключана 11млн. рублёў па рэспубліканскай і раённай прамысловасці на развіццё базы будматар'ялаў. На ўмацаванне распрацоўкі торфу і падрыхтоўку балот к наступнаму году планам намечана звыш 7 млн. руб. капіталаўкладанняў.

Комунальнай гаспадарцы БССР намечана 22,5 млн. руб., з якіх 13,5 млн. руб. прыпадае на палепшанне водаснабжэння, электрыфікацыі і добрабыту сталіцы БССР—Менска. Вялікія комунальныя работы намячаюцца таксама ў Гомелі—2,36 млн., у Віцебску—1,24 млн. руб. На жыллёвае будаўніцтва выканкомаў выдзелена 8 млн. руб. Але гэтым не абмяжоўваюцца будайнічыя работы. У жыллёвую кааперацыю ўкладаецца 2 млн. руб., на рамонт жылфонда жактаў—8,21 млн. руб., на рамонт жылфонда выканкомаў—4,88 млн. руб. Гэтыя значныя ўкладанні ў жыллёвае будаўніцтва, пры ўмове энергічнай работы гарадскіх і будаўнічых арганізацый, дадуць магчымасць павялічыць і палепшыць жыллёвы фонд нашых гарадоў і раённых цэнтраў.

На будаўніцтва па лініі асветы і аховы здароўя саюзны ўрад выдзеліў 50.950 млн. руб. Значная частка гэтых сродкаў пойдзе на пабудову радзільных дамоў і ясляў і 15 млн. руб. на школьнае будаўніцтва.

Вялікі размах у галіне соцыяльна-культурнага будаўніцтва гаворыць аб тым, што партыя і ўрад удзяляюць выключную ўвагу жывым людзям, здавальненню іх узросшых культурных патрэб. Шырокае разгортванне культурна-бытавога будаўніцтва ў гарадах і раёнах забяспечвае вялікі зрух у справе знішчэння процілегласці паміж горадам і вёскай.

У адносінах да капітальнага будаўніцтва ў БССР існуюць яшчэ нездаровыя настроі, супроць якіх былі накіраваны пастанова СНК Саюза і ЦК ВКП(б) ад 11 лютага 1936 года і пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 26 красавіка 1936 г. Робячы намёткі капіталаўкладанняў на капітальнае будаўніцтва, наркаматы звычайна стараліся ўключыць у план як мага больш аб'ектаў будаўніцтва ў кожнай з галін гаспадаркі, не клапоцячыся аб тым, ці здолеюць яны з імі справіцца. З-за адсутнасці гаспадарчага разліку, праектаў і смет у 1936 г. засталіся неасвоенымі звыш 20 млн. рублёў капіталаўкладанняў.

Буйнейшыя аб'екты прамысловага будаўніцтва ледзь былі пачаты толькі к канцу года, як напрыклад, шкляны завод у Барысаве, завод металафарнітуры ў Менску, фабрыка піяніно. Будаўніцтва дома советаў у Бягомлі цягнулася 4 гады.

Будаваць мэтаімкненна, быстра, моцна, танна і прыгожа абавязвае нас лютаўская пастанова Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б). Трэба цвёрда памятаць, што мы павінны ва што-б там ні стала выканаць пяцігадовы план будаўніцтва, поўнасцю асвоіўшы выдзеленыя для яго капіталаўкладанні.

Паспяховае асваенне ўскрытых магутнасцей і рэзерваў у выніку стаханаўскага руху стварае ўсе ўмовы для значнага перавыканання пяцігадовага плана па вытворчасці пры зніжэнні аб'ёму капітальнага будаўніцтва. Чым хутчэй і лепш мы будуем, чым шырэй скарыстоўваем ускрытыя стаханаўскім рухам рэзервы, тым менш патрэбна капіталаўкладанняў, тым большых вынікаў даб'емся ад мерапрыем-

ствaў як па лініі вытворчасці, так і соцыяльна-культурнай. Вялікія сродкі, выдзеленыя ўрадам на капітальнае будаўніцтва, павінны быць скарыстаны з максімальнай эфектыўнасцю.

Чым-жа могуць пахваліцца наркаматы і бударганізацыі БССР, падыходзячы да рэалізацыі вялікага плана капітальнага будаўніцтва?

Не гледзячы на ўрокі мінулага года, наперакор пастанове Соўнаркома Саюза ССР і ЦК ВКП(б) ад 11 лютага 1936 г., яны ўступаюць у гэты год непадрыхтаванымі. Партыяй і ўрадам цвёрда ўстаноўлена, што тэхнічныя праекты павінны быць гатовы не пазней 1 снежня папярэдняга будаўніцтву года. Аднак, праекты і сметы, на аснове якіх могуць быць заключаны дагаворы з бударганізацыямі, не былі канчаткова зацверджаны нават і к сярэдзіне снежня 1936 года. Так, з 33 аб'ектаў па Наркаммясцпрому праекты і сметы меліся толькі на два аб'екты, па Наркамату аховы здароўя з 81 аб'екта—толькі на 32, па НКАсветы са 116 аб'ектаў—толькі на 73, па Наркомгасу са 124 аб'ектаў—на 83. Усе астатнія праекты і сметы, як гавораць, «распрацоўваюцца, разглядаюцца, узгадняюцца» у канцэлярыях, і зусім невядома, калі будуць гатовы. Гэта сведчыць аб непадрыхтаванасці раду наркаматаў да будаўніцтва ў 1937 годзе. Наркаматы і будаўнічыя арганізацыі з вялікай лёгкасцю прывыклі даваць любую шматмільённую заяўку на капітальнае будаўніцтва, бо для гэтага не патрабуецца асобай арганізацыйнай работы, дакладных разлікаў. Калі-ж справа даходзіць да распрацоўкі тэхніка-эканамічных паказчыкаў, да праектаў і смет, то пачынаецца тармажэнне. Наркаматы забываюць пастанову партыі і ўрада, якая патрабуе ад кожнага наркома асабістага канкрэтнага кіраўніцтва складаннем праектаў і смет, як важнейшай часткі капітальнага будаўніцтва.

Наступнае слабое звяно—будаўнічая індустрыя ў БССР. Буд'індустрыя атрымала вялікія капіталаўкладанні на разгортванне механізацыі транспарту і жыллёвае будаўніцтва, каб забяспечыць сталыя кадры рабочых. Не гледзячы на гэта, на будоўлях не ліквідавана сезоннасць, не забяспечана разгортванне стаханаўскага руху. Тым часам аб'ём будаўнічай праграмы па падрадных арганізацыях БССР з кожным годам павялічваецца. У 1935 годзе праграма ўсіх будаўнічых арганізацый БССР складала 34,5 млн. руб., у 1936 годзе—107,8 млн. руб., на 1937 год запланавана 130 млн. руб. Разам з ліквідацыяй так званага «гаспадарчага» спосабу вытворчасці работ (па сутнасці—самага безгаспадарчага) усё больш разгортваецца праграма трох будаўнічых арганізацый БССР, якія павінны арганізаваць сапраўдную буд'індустрыю,—Белпрамбуд, Белкомунбуд і Менбуд.

Нязжытае саматужніцтва, адсутнасць рэальнага плана работ, рыўкі па асобных будоўлях, адсутнасць мэтанакіраванасці—усё гэта надта адмоўна характарызуе бударганізацыі БССР. Незабяспечанасць сталымі кадрамі кваліфікаваных рабочых асабліва сказалася па Менбуду і філіялах Белкомунбуда ў мінулым годзе. Цэлай «праблемай» для Менбуда з'яўлялася адшуканне 20—30 штукатураў і такой-жа колькасці маляроў. Патрабавалася ўмяшанне партыйных і савецкіх арганізацый, каб забяспечыць Менбуд гэтымі кадрамі. У такім-жа становішчы аказалася будаўніцтва дзіцячых ясляў, радзільных дамоў і дзіцячых садоў у гарадах. Нідзе не было ў патрэбны час неабходнай колькасці рабочых. Сваё няўменне арганізаваць работу будаўнікі прыкрывалі спасыланнем на адсутнасць тых ці іншых будматар'ялаў і кваліфікаваных кадраў.

Побач з недастатковасцю і некамплектнасцю механізацыі, надзвычай нізкім быў каэфіцыент скарыстання на будоўлях механізмаў і аўтатранспарта. Так, у плане Белкомунбуда гэты каэфіцыент выражаўся толькі ў 0,45, а на самай справе ў радзе выпадкаў даходзіў да 0,17, тым часам як па меншай меры ён павінен раўняцца 0,60.

У самым пачатку 1937 года цалкам і безагаворачна павінна быць выканана пастанова партыі і ўрада аб буд'індустрыі, зніжан кошт будаўніцтва на 12 проц. супроць сметнага кошту 1935 года. За гэта ў першую чаргу адказваюць будаўнікі. Неабходна рашучая барацьба супроць усякай спробы раскідаць совецкія грошы, праяўляць рвацтва ў сметах, лёгкадумныя адносіны да кошту работ. Трэба памятаць, што зніжэнне кошту будаўніцтва мае агромнае значэнне ў агульным зніжэнні цэн на сродкі вытворчасці і спажывання.

* * *

Рост матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных знаходзіць сваё адлюстраванне ў павышаных патрабаваннях на вырабы розных галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі. План тавараабароту па БССР на 1937 год вырастае на 27 проц. супроць папярэдняга года і выражаецца ў суме 2.820 млн. руб. Найбольш высокім тэмпам узрасце тавараабарот на вёсцы—33,4 проц. супроць 1936 года. Група так званых непрадуктовых тавараў (абутак, адзенне, рознае бытавое абсталяванне) дасягае ў тавараабароце 1.178 млн. руб. супроць 812,200 руб. у 1936 г. (рост на 33,7 проц.). Як у горадзе, так і на вёсцы, значна павялічваецца гандлёвая сетка: ад 8.824 да 9.715 пунктаў.

Жыццё кожнага кутка нашай вялікай соцыялістычнай радзімы ярка ілюструе выдатныя палажэнні Сталінскай Канстытуцыі.

> «Гаспадарчае жыццё СССР вызначаецца і накіроўваецца дзяржаўным народна-гаспадарчым планам у інтарэсах павелічэння грамадскага багацця, няўхільнага ўздыму матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацавання незалежнасці СССР і ўзмацнення яго абароназдольнасці»,—так гаворыць артыкул 11 Канстытуцыі СССР.

Разам з ростам магутнасці эканамічнай асновы СССР—соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі і соцыялістычнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці—няўхільна расце матар'яльны і культурны ўзровень працоўных. З кожнай перамогай на фронце соцыялістычнага будаўніцтва ўзрастае абароназдольнасць Совецкай краіны. Мацаваць нашу магутнасць высокаю тэхнікай, выдатнымі кадрамі, мільёнамі беззаветна адданых соцыялістычнай радзіме байцоў—адна з асноўных задач плана соцыялістычнага будаўніцтва кожнай рэспублікі і ўсяго СССР.

У першым стаханаўскім годзе праявіўся велізарнейшы энтузіязм, агромны гераізм соцыялістычных працаўнікоў горада і вёскі. Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры ўскрыты былі новыя магчымасці, новыя рэзервы для ўзмоцненага росту нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў кожнай рэспубліцы, краі, абласці. У 1937 г. з перавышэннем павінны быць выкананы задачы, пастаўленыя XVII партыйнай канферэнцыяй па плану другога пяцігоддзя. Парукай гэтаму з'яўляецца новая хваля соцыялістычнага спабор-

ніцтва, якім ахоплены цяжкая, абаронная і іншыя галіны нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

У агульнай вялікай сям'і брацкіх рэспублік Совецкага Саюза, у адзіным яго народна-гаспадарчым плане ордэнаносная БССР намячае праграму работ на 1937 год—апошні, завяршаючы год другой пяцігодкі. Пад мудрым кіраўніцтвам вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна краіна соцыялізма ідзе к далейшым вялікім перамогам. Выкрыта і разбіта трацкісцка-зіноўеўская банда шкоднікаў, контррэволюцыйная зграя, якая спрабавала шляхам тэрору, шпіянажу і дыверсіі падарваць эканамічныя пазіцыі дыктатуры рабочага класа, перашкодзіць пераможнаму ходу будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне. Найвастрэйшая рэволюцыйная пільнасць, бязлітасная барацьба з рэшткамі класавых ворагаў—абавязак кожнага партыйнага і беспартыйнага большэвіка.

Поўныя творчага энтузіязму, ахопленыя агнём соцыялістычнага спаборніцтва, працоўныя БССР ідуць да далейшых поспехаў, да новых перамог на карысць нашай вялікай соцыялістычнай радзімы.

---

# Дакументы В. І. Леніна

*Ніжэй друкуюцца шэсць дакументаў Уладзіміра Ільіча. Сярод дакументаў Леніна публікуюцца 4 тэлеграмы перыяда грамадзянскай вайны, пісьмо наркамюсту Курскаму—18 сакавіка 1922 г. і запіска ў Палітбюро—6 кастрычніка 1922 г.*

*Першая тэлеграма, датаваная 2-м або 3-м студзеня 1919 г., цалкам напісана таварышом Сталіным, подпіс Леніна. Тэлеграма паслана ў перыяд пачаўшагася рашучага наступлення чырвоных войск супроць данской казачай арміі Краснова. Упамінаемае ў тэлеграме заняцце Райгорада красноўцамі насіла кароткатэрміновы характар. Ужо ў другой палове студзеня атрады Краснова спешна адступілі па ўсяму фронту. Апераравaўшы ў Каспійскім моры англійскі флот, аб якім таксама гаворыцца ў тэлеграме, меў сваёй базай Баку, акупіраваны англійскімі імперыялістамі ў другой палове 1918 года. У Баку англічане заставаліся да мая 1920 г.*

*Тэлеграма Рэўваенсовету Ўсходняга фронта 9 чэрвеня 1919 г., якая ўказвала на задачы Ўсходняга фронта ў барацьбе з Калчаком і падкрэслівала неабходнасць перакінуць часці войск на другія фронты, напісана ў перыяд летняга наступлення Юдзеніча на Петраград і прарыву дзенікінцамі нашага Паўднёвага фронта ў раёне Мілерава. На Ўсходнім фронце ваенныя дзеянні развіваліся спрыяюча для чырвоных войск, і якраз 9 чэрвеня, ў дзень пасылкі тэлеграмы, намі была ўзята Уфа.*

*Тэлеграма Фрунзе 18 кастрычніка 1919 г. напісана ў перыяд нашых рашучых поспехаў у барацьбе супроць Калчака на Ўсходнім фронце. 14 кастрычніка пачалося новае наступленне чырвоных армій, якое канчаткова зламала супраціўленне калчакоўцаў. Фрунзе ў гэты час дзейнічаў у раёне Уральскай і Орэнбургскай абласцей.*

*Тэлеграма таварышу Сталіну 13 лістапада 1920 г. паслана ў той час, калі Сталін знаходзіўся на Каўказе ў Тэмір-Хан Шуры (Буйнакск), куды ён прыбыў з Баку на з'езд народаў Дагестана. Таварыш Сталін кіраваў на Каўказе ліквідацыяй уцалеўшых яшчэ белагвардзейскіх атрадаў.*

*Повадам к напісанню пісьма наркамюсту Курскаму 18 сакавіка 1922 г. паслужылі бясчынствы, выяўленыя ў Цукартрэсце. У пісьме Ленін патрабуе «лютай расправы» з вінаватымі.*

*Запіска ў Палітбюро напісана Уладзімірам Ільічом 6 кастрычніка 1922 г. Ленін толькі на-днях (2 кастрычніка) прыступіў да работы. аправіўшыся пасля першых прыступаў хваробы. Запіска напісана ў сувязі з абмеркаваннем на Палітбюро даклада Камісіі аб Саюзнай канстытуцыі. Ленін, у якога ў гэты час балеў зуб, аб чым ён упамінае ў запісцы (і наогул Уладзімір Ільіч адчуваў сябе ў гэты час нездаровым), на пасяджэнні не прысутнічаў.*

**Інстытут МАРКСА—ЭНГЕЛЬСА—ЛЕНІНА пры ЦК ВКП(б).**

* * *

## У РЭЎВАЕНСОВЕТ РЭСПУБЛІКІ

[2 або 3 студзеня 1919 г.]

З аператыўнай зводкі Начальніка штаба Каўказскага фронта нумар 4873 відаць, што красноўцы занялі Райгорад на беразе Волгі на поўдзень ад Сарэпты, пагражаючы, па-першае, нашым ваенным грузам, што ідуць з Уладзіміраўкі ў Царыцын, па-другое, цэласці лініі Астрахань—Саратаў. Просьба прыняць меры. З той-жа аператыўнай зводкі відаць, што англійскі флот, сілай чатырох суднаў, абстраляў Старацерэчную, на поўдзень ад Астрахані, запаліў дзве нашы баржы і ўшоў непашкоджаным у мора, захапіўшы наша шпітальнае судно «Алескер» з медыцынскім персаналам. Дзе наш флот і што ён робіць? 12.

Старшыня соўнаркома ЛЕНІН

## ТЭЛЕГРАМА РЭЎВАЕНСОВЕТУ ЎСХОДФРОНТА

9 чэрвеня [1919 г.]

Без усякай чаргі. Камісару прасачыць за праходжаннем.

Рэўваенсовет Усходфронта.

Сільнае пагоршанне пад Піцерам і прарыў на поўдні прымушае нас яшчэ і яшчэ браць войскі з Вашага фронта. Інакш нельга. Вам трэба перайсці да больш рэволюцыйнай ваеннай работы, разрываючы прывычнае. Мабілізуйце ў прыфронтавай паласе пагалоўна ад 18 да 45 гадоў, стаўце ім задачай узяцця бліжэйшых вялікіх заводаў накшталт Матавіліхі, Міньяра, абяцаючы адпусціць, калі возьмуць іх. Ставячы па два і па тры чалавекі на адну вінтоўку, прызываючы выгнаць Калчака з Урала, мабілізуйце 75 процантаў членаў партыі і профсаюзаў. Іншага выхаду няма, трэба перайсці да работы па рэволюцыйнаму. Абмяркуйце часцю разам з Каменевым*), як гэта правесці і адказвайце, што прадпрымаеце. [381].

ЛЕНІН

## ТЭЛЕГРАМА М. В. ФРУНЗЕ.

18 кастрычніка 1919 г.

Рэўваенсовет Туркфронта.

Фрунзе.

Усю ўвагу ўдзяліце не Туркестану, а поўнай ліквідацыі ўральскіх казакаў усялякімі хоць-бы і дыпламатычнымі мерамі. Паскарайце з усіх сіл дапамогу южфронту. Ці нельга ўзяць орэнбургскіх казакаў пад Піцер ці на іншы фронт? Паведамляйце часцей аб фактычным выкананні. [127].

ЛЕНІН

*) С. С. Каменеў быў у гэты час камандуючым Усходнім фронтам.

## ТЭЛЕГРАМА І. В. СТАЛІНУ.

[13 лістапада 1920 г.]

Сталіну

Як ідзе барацьба з бандамі? Ці праўда, што ў іх звыш 20.000 штыкоў і сабель? Ці дастатковы назначаныя на Каўфронт падмацаванні? Ці лічыце магчымым мірнае ўладжанне адносін з Грузіяй і Арменіяй і на якой падставе. Затым, ці вядуцца ўпаўне сур'ёзныя работы па ўмацаванню падыходаў к Баку. Прашу таксама паведамленняў аб Турцыі і Персіі каротка тэлеграмай, падрабязней пісьмом. [574].

ЛЕНІН.

## ПІСЬМО Д. І. КУРСКАМУ.

18 сакавіка 1922 [г.]

Тав. Курскі!

Тав. Цюрупа паслаў Вам пісьмо наконт цук[ар]-трэста!

Прашу звярнуць сугубую ўвагу на гэтую справу.

Назначце **лепшага** работніка.

Правярайце **асабіста.**

Максімум энергіі і строгасці.

У нашых дзяржтрэстах бяздонне бясчынстваў. І горшыя бясчыншчыкі, бяздзельнікі, шалапаі, гэта—«добрасумленныя» комуністы, якія даюць сябе добрасумленна вадзіць за нос.

Н[ар]к[ам]юст і Рэўтрыб адказваюць у першую галаву за лютую расправу з гэтымі шалапаямі і з белагвардзейцамі, якія імі іграюць.

З к. пр. ЛЕНІН.

## ЗАПІСКА Ў ПАЛІТБЮРО.

[6 кастрычніка 1922 г.]

Вял[іка]рус[каму] шавінізму абвяшчаю бой не на жыццё, а на смерць, як толькі пазбаўлюся ад праклятага зуба, з'ем яго ўсімі здаровымі зубамі.

Трэба **абсалютна** настаяць, каб у саюзным ВЦИК'е **старшынствалі** па чарзе

рускі
украінец
грузін і т. д.

Абсалютна!

Ваш ЛЕНІН

Правільна

[СТАЛІН].

У дапамогу прапагандысту

# Соцыялізм і роўнасць

Неакрэслены лозунг «роўнасць наогул» адыграў у гісторыі барацьбы рабочага класа дваякую ролю. У тыя часы, калі соцыялізм быў яшчэ ўтопіяй, лозунг гэты выражаў інстынктыўнае імкненне эксплаатуемых знішчыць абураючую несправядлівасць класавага грамадства. З той пары, як соцыялізм быў ператворан геніем Маркса—Энгельса з утопіі ў навуку, расплыўчатыя ўраўнальныя разважанні сталі ўлюбёнаю формай маскіроўкі ворагаў рабочага класа, ворагаў пролетарскай рэволюцыі.

Лозунг роўнасць з'явіўся на гістарычнай арэне яшчэ на ранішняй зары буржуазных рэволюцый. Лозунг гэты служыў у руках буржуазіі адною з найбольш дзейсных прыманак для народных мас. Буржуазія перамагла феадалізм, але на месца ранейшай саслоўнай няроўнасці з'явілася неабмежаваная маемасная няроўнасць. Бяздонне паміж класамі дасягнула нябачанай глыбіні. Ужо ў першы перыяд буржуазнага ўладарніцтва пролетарыят, паводле выражэння Энгельса, «ловіць буржуазію на слове». Фармальная роўнасць аказалася ілюзіяй, манюю, ашуканствам. Калі ўжо гаварыць аб роўнасці, то яна павінна быць не толькі фармальнай, а і фактычнай. Але шлях к дасягненню гэтай мэты заставаўся няясным да таго часу, пакуль марксізм не паказаў, што рэальным зместам пролетарскага патрабавання роўнасці з'яўляецца знішчэнне класаў.

Гэтым быў нанесен сакрушальны ўдар беззмястоўным і нікчэмным уяўленням адносна «роўнасці наогул». Ідэя роўнасці—не нейкая непахісная і вечная ісціна. Яна параджаецца пэўнымі грамадскімі адносінамі. Яе змест мяняецца разам са зменай апошніх. Сэнс патрабавання роўнасці заключаецца толькі ў знішчэнні няроўнасці. Разам са знішчэннем няроўнасці вычэрпваецца змест самага патрабавання роўнасці. Вось чаму Энгельс, тлумачачы, што рэальны змест патрабавання роўнасці ў вуснах пролетарыята заключаецца ў ліквідацыі класаў, дадаваў: «Усякае патрабаванне роўнасці, якое ідзе далей гэтага, немінуча прыводзіць да недарэчнасцей».

Рознамастныя ворагі пролетарскай рэволюцыі спрабавалі нажыць сабе капітал, сеючы ўраўнальныя ілюзіі. Марксісцкаму канкрэтнаму разуменню роўнасці яны процістаўлялі неакрэсленыя разважанні наконт абстрактнай «роўнасці наогул». За ўраўнальнай фальсіфікацыяй соцыялізма скрывалася барацьба супроць рэволюцыйнага марксізма.

Яшчэ пры жыцці Маркса і Энгельса іх ворагі ахвотна хаваліся за шырму ўраўнальнага соцыялізма. Так рабілі пруданісты і бакуністы ў эпоху Першага інтэрнацыянала. «Ураўнанне класаў»—такім было

неакрэслена-дэмагагічнае патрабаванне, якое Бакунін процістаўляў марксісцкай праграме пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства шляхам пролетарскай рэволюцыі і заваявання дыктатуры рабочага класа. На «ураўнальным» каньку ўдоваль паездзілі ласальянцы. Усе апартуністычныя плыні, якія процістаўлялі марксавай праграме рэволюцыйнага звяржэння капіталізма рэфармісцкія ілюзіі штопання найбольш вялікіх яго дзір, спрабавалі прыкрыцца шчытом ураўнальнага соцыялізма.

У Расіі асаблівымі майстрамі на гэты конт былі эсэры. Як вядома, гэта буржуазна-кулацкая партыя ставіла сваёй мэтай расчыстку шляхоў для капіталістычнага развіцця Расіі. Яе прадстаўнікі на ўсіх скрыжаваннях і ва ўсіх склонах скланялі словы: «роўнасць», «ураўнальнасць» і т. д. У работах Леніна не мала бліскучых старонак прысвечана выкрыццю сапраўднага сэнсу ўраўнальнай дэмагогіі эсэраў.

Пасля перамогі Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі контррэволюцыйная роля дробнабуржуазнай ураўнальнай дэмагогіі выступіла асабліва наглядна. Даволі напомніць, што ва імя «роўнасці» меншавікі і эсэры пратэставалі супроць той бязлітаснай вайны капіталізму, якую аб'явіла совецкая ўлада. Вогненнымі, бічуючымі словамі Ленін і Сталін кляймілі здрадніцтва гэтых гнусных людзішак. На сафізмы лакеяў буржуазіі яны адказвалі, што няма і не можа быць роўнасці паміж эксплаататарамі і эксплаатуемымі.

З першых-жа крокаў совецкай улады ў меншавіцка-эсэраўскі хор уключыліся паасобныя меншавіцкія лазутчыкі, якія прабраліся ў рады нашай партыі. Яшчэ ў 1918 г. «левыя комуністы» выступалі «у імя роўнасці» супроць здзельнай аплаты працы. Трацкізм, які скарыстаў у сваёй контррэволюцыйнай барацьбе за аднаўленне капіталізма ў СССР любую зброю, аж да самай атручанай, не раз зварачаўся да «ураўнальнай» дэмагогіі.

## II

Пры пераходзе ад ваеннага комунізма к нэпу, калі задачы мірнага гаспадарчага будаўніцтва паўсталі на ўвесь рост, Троцкі выступіў з правакацыйным патрабаваннем ураўнальнасці ў галіне спажывання пры ўдарнасці ў вытворчасці. Гэты лозунг азначаў лінію на зрыў усякай гаспадарчай работы.

Выкрываючы ўраўнальную дэмагогію Троцкага, Ленін напярэдадні X з'езда гаварыў: «Гэта суцэльная блытаніна тэарэтычна. Гэта зусім няверна. Ударнасць ёсць перавага, а перавага без спажывання нішто... Без гэтага ўдарнасць—мара, воблачка, а мы, усё-такі, матэрыялісты. Так нельга, і нічога добрага на такім шляху быць не можа» *).

Аддаць даніну ўраўнальнай дэмагогіі трацкісты спрабавалі на ўсіх пераломных этапах соцыялістычнага будаўніцтва. Адзін з такіх пераломных момантаў краіна перажывала на парозе пераходу да шырокай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Устанаўленне правільных адносін паміж рабочым класам і сялянствам, вызначэнне далейшых шляхоў будаўніцтва мела тады рашаючае значэнне. Гэта быў час, калі подлы трацкісцка-зіноўеўскі блок атакаваў палітыку партыі па ўсяму фронту. У якасці адной з найбольш атручаных стрэл супроць партыі трацкісты-зіноўеўцы паспрабавалі выкарыстаць патрапаны меншавіцка-эсэраўскі лозунг «роўнасці наогул». У 1925 г. спадручны Троцкага

*) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXVI, стар. 70—71.

Зіноўеў выступіў з артыкулам «Філасофія эпохі», які талкаваў аб нейкай неакрэсленай народніцкай, эсэраўскай роўнасці без указання класавай падаплёкі роўнасці. Аб тым, як трацкісты-зіноўеўцы ўяўлялі сабе канкрэтнае ажыццяўленне гэтага прынцыпу, лепш за ўсё сведчыў другі дэмагагічны лозунг, высунуты імі ў тую-ж пару: «даць кожнаму бедняку па каню».

Зусім відавочна, што паборнікам капіталістычнай рэстаўрацыі—трацкістам не было рашуча ніякай справы ні да «роўнасці», ні да «беднякоў». Мэта іх была іншая. Неакрэслена расплыўчатае патрабаванне «роўнасці наогул» процістаўлялася чоткай лініі ЦК ВКП(б) на ажыццяўленне марксісцкага разумення роўнасці, г. зн. на знішчэнне класаў. Дэмагагічны лозунг наконт беднякоў увасабляў лінію на ўвекавечанне дробнай вытворчасці, якая немінуча параджае капіталізм у масавым маштабе. Гэтую лінію трацкісты высоўвалі ў процівагу лініі партыі на соцыялістычную пераробку дробнай сялянскай гаспадаркі.

Трацкісцка-зіноўеўская ўраўнальная дэмагогія была да канца выкрыта таварышом Сталіным. У сваім водзыве аб зіноўеўскім артыкуле таварыш Сталін пісаў: «Лозунг аб роўнасці ў даны момант ёсць эсэраўская дэмагогія. Ніякай роўнасці не можа быць, пакуль ёсць класы і пакуль ёсць праца кваліфікаваная і некваліфікаваная (гл. «Рэвалюцыя і дзяржава» Леніна). Трэба гаварыць не аб неакрэсленай роўнасці, а аб знішчэнні класаў, аб соцыялізме» *). У сваім заключным слове па дакладу на XIV партз'ездзе таварыш Сталін, прыводзячы гэты свой водзыў, дае наступныя дадатковыя тлумачэнні па пытанню аб роўнасці: «Нельга гаварыць аб роўнасці ў асноўным кіруючым артыкуле, не даючы строгага азначэння, аб якой роўнасці ідзе гутарка—роўнасці сялян з рабочым класам, роўнасці ўнутры сялянства, роўнасці ўнутры рабочага класа, паміж кваліфікаванымі і некваліфікаванымі, ці аб роўнасці ў сэнсе знішчэння класаў» **).

## III

Пацярпеўшы разгром у адкрытых баях, трацкізм перайшоў да самых подлых метадаў барацьбы з партыяй. Стаўка на ўраўнілаўскія настроі адсталых слаёў працоўных увесь час уваходзіла састаўною часткай у гэтыя метады барацьбы трацкізма, а таксама яго саюзнікаў з лагера правых апартуністаў.

У гады першай пяцігодкі, калі ўся краіна былаператворана ў адзіную гіганцкую будаўнічую пляцоўку, «лявацкія» падгалоскі і агенты трацкізма адкрыта выставілі дробнабуржуазную ўраўнілаўку сваім сцягам барацьбы супроць палітыкі партыі. Укупе і ўлюбе з імі дзейнічалі правыя ліквідатары з апартуністычнага профсаюзнага кіраўніцтва на чале з Томскім і інш. Таварыш Сталін наносіць сакрушальны ўдар дробнабуржуазнай ураўнілаўцы. Ён да канца ўскрывае яе практычную шкоднасць і небяспеку, яе антыленінскую сутнасць у тэарэтычных адносінах. Дробнабуржуазным ураўнальным уяўленням ён процістаўляе марксісцка-ленінскае вучэнне аб соцыялістычных прынцыпах аплаты працы. Ён піша:

«Маркс і Ленін гавораць, што розніца паміж працай кваліфікаванай і працай некваліфікаванай будзе існаваць нават пры соцыялізме,

*) І Сталін. Палітычная справаздача ЦК XIV з'езду ВКП(б), Партвыдавецтва. 1933, стар. 75—76.

**) Там жа, стар. 76.

нават пасля знішчэння класаў, што толькі пры комунізме павінна знікнуць гэта розніца, што, з прычыны гэтага, «зарплата» нават пры соцыялізме павінна выдавацца па працы, а не па патрэбнасці. Але нашы ўраўнілаўцы з гаспадарнікаў і профсаюзнікаў нязгодны з гэтым і мяркуюць, што гэта розніца ўжо знікла пры нашым совецкім ладзе. Хто праў—Маркс і Ленін ці ўраўнілаўцы? Трэба думаць, што правы тут Маркс і Ленін. Але з гэтага выходзіць, што хто будуе цяпер тарыфную сістэму на «прынцыпах ураўнілаўкі», без уліку розніцы паміж працай кваліфікаванай і працай некваліфікаванай, той ірве з марксізмам, ірве з ленінізмам» *).

Шэсць умоў таварыша Сталіна ўзбройваюць партыю, працоўныя масы, гаспадарчых кіраўнікоў дакладным веданнем шляху да перамогі. Недарма сталінскія ўказанні ўваходзяць у свядомасць мільённых мас як шэсць умоў перамогі. Барацьба супроць дробнабуржуазнай ураўнілаўкі і звязанай з ёю цякучасці рабочай сілы, барацьба за правільнае правядзенне соцыялістычных прынцыпаў арганізацыі і ўзнагароды працы займае сярод указанняў таварыша Сталіна адно з самых відных месц.

У калгасах у першы перыяд іх арганізацыі дробнабуржуазная ўраўнілаўка была ўлюбёным сцягам барацьбы класавага ворага. Кулак і яго агентура бачылі ў «ядоцкім» прынцыпе размеркавання калгасных прыбыткаў той знарад, пры дапамозе якога яны разлічвалі ўзарваць калгасы з сярэдзіны. Партыя нанесла самы жорсткі ўдар кулацкім замыслам, узброіўшы калгасы соцыялістычным прынцыпам размеркавання прыбытку ў адпаведнасці з колькасцю і якасцю затрачанай працы. У гэты перыяд контррэволюцыянер Троцкі выступіў у сваім брудным лістку з «прароцтвам» наконт таго, што ў калгасах не толькі не спыніцца дыферэнцыяцыя, але яна, наадварот, пойдзе яшчэ хутчэй, чым пры індывідуальнай гаспадарцы. Вястун рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне тут паўтараў па сутнасці зады буржуазных соцыёлагаў.

## IV

У дакладзе XVII з'езду партыі таварыш Сталін даў вычарпальнае растлумачэнне марксісцка-ленінскага разумення роўнасці. Гэта растлумачэнне падводзіць вынікі як гіганцкаму вопыту соцыялістычнага будаўніцтва, так і доўгалетняй барацьбе супроць дробнабуржуазных ураўнальных тэндэнцый. Таварыш Сталін падкрэсліў, што пад роўнасцю належыць разумець: «а) роўнае вызваленне ўсіх працоўных ад эксплаатацыі пасля таго, як капіталісты звергнуты і экспрапрыяваны, б) роўную адмену для ўсіх прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці пасля таго, як яны перададзены ва ўласнасць усяго грамадства, в) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па іх працы (**соцыялістычнае** грамадства), г) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па іх патрэбнасцях (**комуністычнае** грамадства)» **).

Рэальны змест пролетарскага патрабавання роўнасці ў сэнсе знішчэння паразітычных і эксплаататарскіх класаў ужо ажыццёўлен у нашай краіне. Нікому ў свеце не ўдасца скрыць той факт велізарней-

*) **І. Сталін.** „Пытанні ленінізма", стар. 452.
**) **І. Сталін.** „Пытанні ленінізма", стар. 583.

шага сусветна-гістарычнага значэння, што ў СССР усе працоўныя ў роўнай меры вызвалены ад эксплаатацыі, бо капіталісты, памешчыкі і кулакі экспрапрыяваны. У нашай краіне знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам, поўнасцю ліквідаваны беспрацоўе і самыя гнусныя, самыя подлыя формы няроўнасці, неадрыўныя ад любога эксплаататарскага ладу. З корнем вырвана няроўнапраўе жанчын, якое асуджае нават у самых перадавых краінах палову насельніцтва на пастыднае і прыніжанае становішча. Выкарчавана няроўнасць нацый і рас, якая падзяляе ўсё астатняе чалавецтва на жменьку «прывілеяваных» і велізарную большасць прыгнечаных. Поўная і паслядоўная да канца роўнасць палоў, роўнасць нацый і рас—неадлучная частка социялістычнага дэмакратызма, які характарызуе наш грамадскі лад.

Хто стане адмаўляць, што ўсё гэта складае рэальны змест канкрэтнага патрабавання роўнасці ў яго ленінска-сталінскім сэнсе?

Нарэшце, моцнай асновай сапраўднай роўнасці ў большэвіцкім сэнсе гэтага слова з'яўляецца пануючы ў нас социялістычны прынцып размеркавання па працы. «Хто не працуе, той не есць», «ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па працы»—у гэтых двух неразрыўна звязаных паміж сабою прынцыпах социялістычнага грамадства ўвасоблены лепшыя меры многіх пакаленняў, бачыўшых дзіўныя контуры социялізма скрозь імглу і смурод эксплаататарскага грамадства. Вось чаму Сталінская Канстытуцыя, якая надала сілу Асноўнага Закона ўсім пералічаным прынцыпам социялізма, ажыццёўленым на справе ў СССР, не толькі выклікала ўсеагульнае лікаванне і радасць працоўных нашай вялікай радзімы, але і «будзе маральнай дапамогай і рэальным падспор'ем для ўсіх тых, хто вядуць цяпер барацьбу супроць фашысцкага варварства» **(Сталін).**

Людзі адметны паміж сабою здольнасцямі і дараваннямі, якасцямі характараў і волі. Социялізм стварыў у нас для ўсіх працоўных роўныя магчымасці развіцця ўсіх заложаных у іх здольнасцей. Вось чаму найшырэйшыя народныя масы расцвілі ў нашай краіне незлічонымі яркімі індывідуальнасцямі. Праца і толькі праца—у нашай краіне непахіснае мерыва заслуг кожнага, яго славы і гонару, яго грамадскага прызнання і матар'яльных ўмоў жыцця.

Дробнабуржуазная ўраўнілаўка, якая апеліруе да самых адсталых настрояў, да яшчэ няжжытых рэштак псіхалогіі прыніжанасці і пачуцця няпоўнацэннасці, што захаваліся ў самых неразвітых слаёў, спрабуе нанесці ўдар социялістычным прынцыпам аплаты працы. Яна пасягае на самую аснову, якая забяспечвае нашай краіне гіганцкі-хуткі рух уперад, а яе людзям—самыя неабмежаваныя магчымасці развіцця. Яна патрабуе аднолькавай аплаты кваліфікаванай і некваліфікаванай працы, стаханаўца і лодыра, сумленнага працаўніка і дармаеда-бяздзельніка. Хіба не ясна, што пад флагам «ураўнальнасці» тут на справе скрываецца патрабаванне самага непрыкрытага парушэння роўнага падыходу да людзей, роўнай меркі іх заслуг, патрабаванне спрыяння самым адсталым элементам за кошт перадавых, бяздзельнікам за кошт самаадданых работнікаў? Дробнабуржуазная ўраўнілаўка таму ў сучасны момант служыць вельмі зручнай шырмай для цёмных спраў трацкісцка-зіноўеўскіх рэстаўратараў капіталізма ў нашай краіне.

Фашысты і іх агенты—правакатары са злачыннай трацкісцкай банды тэрарыстаў, дыверсантаў і шкоднікаў вядуць ігру з раздзеленымі ролямі. Фашысты зрабілі сваім сцягам адкрытую абарону самых

бесчалавечных, заалагічных форм няроўнасці і прыгнечання, якія калі-небудзь бачыў свет. Іх атручаная дэмагогія разлічана на самыя нізкія, звярыныя інстынкты, на распальванне шавіністычнага шалу і рабскай псіхалогіі. Няроўнасць, «няпоўнацэннасць» рас і нацый, няроўнасць паміж кучкай «эліты» (чыстапародных) і ўсёй народнай масай—вось лозунгі, якія адкрыта прапаведваюцца фашыстамі.

У той-жа час прамыя пасобнікі фашыстаў з трацкісцка-зіноўеўскага атрэб'я, якія выконваюць прамыя даручэнні сваіх фашысцкіх гаспадароў, выцягваюць са сметніка гісторыі спарахнелае рыззё даўно выкрытых ураўнальных тэндэнцый. Ці трэба яшчэ даводзіць, што гэтая зброя настолькі-ж нікчэмна і мізэрна, як і яе носьбіты—рэстаўратары капіталізма, самыя подлыя і азлобленыя рэшткі разбітых ушчэнт эксплаататарскіх класаў?!

(„Праўда")

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе выканання Чашніцкім раёнам пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 19/XII-35 г. аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і аб уздыме сельскай гаспадаркі нячорназемнай паласы

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Заслухаўшы сакратара Чашніцкага РК КП(б)Б тав. Марголіна і паведамленне ўпаўнаважанага КПК аб ходзе выканання Чашніцкім раёнам пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 19 снежня 1935 г. «Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўздыме сельскай гаспадаркі ў абласцях, краях і рэспубліках нячорназемнай паласы», ЦК КП(б)Б адзначае, што чашніцкія раённыя арганізацыі (райком, РВК, райза, МТС) не забяспечылі выканання важнейшых указанняў гэтай пастановы: павышэння ўраджайнасці, правядзення ў жыццё сталінскага статута сельгасарцелі, скарыстання і ўкаранення ў калгасы раёна сельскагаспадарчай тэхнікі, падрыхтоўкі і вырошчвання кадраў і сталінскіх клопатах аб іх.

Партыйна-савецкае кіраўніцтва раёнам у веснавую сяўбу за сярэднімі лічбамі вывазкі на палі ўгнаенняў прагледзела, што цэлы рад калгасаў фактычна праваліў вывазку гною, торфу і іншых угнаенняў (калгас імя Жданава, «Ленінскі шлях», імя Чарвякова і інш.), прычым радковая сяўба па раёну праведзена толькі на 30,5 проц.

Не гледзячы на значнае ўзмацненне трактарнага парка МТС новымі трактарамі і машынамі, парк працаваў дрэнна, не выканаў плана работ і норм выпрацоўкі.

У выніку рад калгасаў (імя Жданава, Калініна, Чарвякова, «Чырвоны сцяг» і інш.) аказаўся найменш устойлівым у перыяд засушлівага надвор'я, рэзка знізіўшы ўраджай, а ў цэлым па раёну ўраджай па ўсіх культурах аказаўся ніжэй леташняга.

1936 сельскагаспадарчы год Чашніцкі раён скончыў, маючы выкананне плана па хлебапастаўках на 93,4 проц., па ільну—77,7 проц. і па бульбе—98,5 проц.

Адсутнасць дастатковага кіраўніцтва ў раёне справай палепшання сенажацей і пасьбішчаў, невыкананне ўказанняў партыі і ўрада аб сіласе, аб другім укосе траў (засіласавана па раёну 68 проц.) прывялі да таго, што рад калгасаў («Ленінскі шлях», «Новае жыццё») застаўся амаль без кармоў, а становішча кармовага баланса ў раёне такое, што ставіць пад сур'ёзную пагрозу пагалоўе жывёлагадоўчых ферм у цэлым радзе калгасаў.

У Чашніцкім раёне няма сапраўднай бальшэвіцкай барацьбы з фактамі парушэння і скажэння сталінскага статута сельгасарцелі.

Больш таго, самі раённыя партыйна-савецкія арганізацыі парушаюць статут. Райкомам і РВК за 1936 г. было знята і перакінута на іншую работу 19 старшынь калгасаў. У той-жа час у радзе калгасаў кіраўніцтва яўна засмечана чужымі, разлажыўшыміся элементамі (калгасы «Свабода», «Вялікія Ліпавічы»), якія сваёй безгаспадарчасцю, а часам злачыннай работай наносяць значныя страты калгасам.

Не вядзецца дастатковай барацьбы з фактамі накладання незаконных штрафаў на калгаснікаў і няправільнага выключэння з калгасаў (калгасы «Чырвоная Дуброва», «13 Окцябр» і інш.). Чашніцкая партыйная арганізацыя недастаткова выконвае ўказанні партыі аб вылучэнні жанчын на кіруючую работу. Усяго за год вылучана 3 жанчыны; на механізатарскіх курсах пры МТС усяго налічваецца 6,5 проц. жанчын.

Выхаваўчая работа сярод калгаснікаў і калгасніц, растлумачэнні ім важнейшых дырэктыў і пастаноў партыі і ўрада праводзяцца пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі Чашніцкага раёна нездавальняюча. У кіраўніцтве калгасамі пераважае адміністраванне.

Усё гэта сведчыць аб тым, што Чашніцкі райком і райвыканкой фармальна аднесліся да пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб нячорназемнай паласе, не зрабілі гэту пастанову баявой праграмай сваёй штодзеннай работы і барацьбы за лозунг таварыша Сталіна аб 7—8 мільярдах пудоў хлеба і за ажыццяўленне непасрэднай задачы нашай рэспублікі: дабіцца ў бліжэйшыя 3—4 гады ўраджаю зерневых культур 90—100 пудоў, лёну—4—5 цэнт., бульбы—900—1.100 пудоў.

Прапрацаваўшы пастанову ў пярвічных партарганізацыях, райком партыі не праводзіў затым праверкі выканання гэтай пастановы ў калгасах, МТС і пярвічных партарганізацыях.

ЦК лічыць зусім недапушчальнымі такія адносіны з боку Чашніцкага РК КП(б)Б і райвыканкома да дырэктыў партыі і ўрада і абавязвае РК і РВК сваю далейшую работу па кіраўніцтву калгасамі ў раёне праводзіць, выходзячы з пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 19 снежня 1935 г. У прыватнасці, неабходна цяпер-жа разгарнуць у раёне праверку падрыхтоўкі кожнага калгаса і МТС да веснавой сяўбы (вывазка ўгнаенняў, насенне, рамонт інвентара і інш.), распрацаваўшы практычныя мерапрыемствы з указаннем аб'ёму работ і тэрміну выканання іх для кожнага калгаса і МТС.

ЦК абавязвае райком і дырэктароў МТС так правесці рамонт і падрыхтоўку трактарнага парка і прычэпнага інвентара, каб забяспечыць бесперабойную работу кожнага трактара ў час веснавога ворыва. ЦК абавязвае дырэктароў першай і другой МТС цяпер-жа ўзмацніць выбарку гаручага са складаў, забяспечыўшы МТС неабходнаю тарай.

На працягу зімы райком, партыйная арганізацыя і МТС абавязаны падрыхтаваць неабходныя механізатарскія кадры трактарыстаў, ільнацерабільшчыкаў, машыністаў малатарань і т. д. Супроць паломак, аварый, прастояў машын павінна быць разгорнута самая рашучая барацьба з боку дырэкцыі і саміх вадзіцеляў машын.

Чашніцкі РК і ўся раённая партыйная арганізацыя абавязаны шырэй разгарнуць соцспаборніцтва ў гэтым годзе. ЦК лічыць, што ў аснову спаборніцтва за высокі ўраджай неабходна палажыць адозву ўдзельнікаў пашыранага пленума зернавой секцыі сельскагаспадарчай акадэміі навук імя В. І. Леніна. Умовы адозвы павінны стаць вядомымі кожнаму калгасніку, трактарысту, спецыялісту сельскай гаспа-

даркі, і вакол гэтых умоў павінна быць разгорнута спаборніцтва за лепшую падрыхтоўку да сяўбы, за самую сяўбу і збор рэкордных ураджаяў.

ЦК абавязвае Чашніцкі райком партыі з усёй большэвіцкай настойлівасцю і клопатамі праводзіць у жыццё статут сельскагаспадарчай арцелі, ведучы рашучую барацьбу супроць фактаў скажэння і парушэння статута сельгасарцелі, памятаючы ўказанне ЦК ВКП(б) і СНК СССР, што «партыйна-совецкія арганізацыі змогуць у бліжэйшы тэрмін дабіцца арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў толькі пры ўмове, калі сталінскі калгасны статут не фармальна, а на справе атрымае сілу асноўнага дзяржаўнага закона ў кожным калгасе, і віноўныя ў парушэнні статута будуць сурова карацца» (з пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 19 снежня 1935 г.).

Неабходна ўзмацніць масава-палітычную работу сярод калгаснікаў, растлумачэнні Сталінскай Канстытуцыі, асноўных дырэктыў і пастаноў партыі і ўрада; гутаркі адказных раённых работнікаў з калгаснікамі аб сур'ёзнейшых палітычных падзеях, чытка газет павінна стаць не фармальнай справай, а неадкладнай і сур'ёзнейшай задачай пярвічных партарганізацый і сістэматычна праводзіцца ў калгасах.

Неабходна ўсямерна ўзмацніць увагу і клопаты аб людзях, не дапускаючы і сур'ёзна караючы за праяўленне фактаў бяздушных адносін і няўвагі да патрэб паасобных калгаснікаў, якія маюць патрэбу ў дапамозе (удовы з дзецьмі, многасямейныя, хворыя і т. д.), таксама да патрэб лепшых ударнікаў і стаханаўцаў сельскай гаспадаркі.

ЦК упэўнен, што чашніцкія партыйна-совецкія арганізацыі прымуць усе меры да выпраўлення ўсіх дапушчаных імі памылак і ўпушчэнняў у правядзенні пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 19 снежня 1935 г. аб нячорназемнай паласе і ў барацьбе за высокі ўраджай 1937 года, за правядзенне па-стаханаўску ўсяго сельскагаспадарчага года будуць няўхільна следаваць усім указанням гэтай пастановы.

Прапанаваць Чашніцкаму РК на бліжэйшым паседжанні бюро РК КП(б)Б намеціць рад практычных мерапрыемстваў па ажыццяўленню данага рашэння.

---

# Аб недапушчальных адносінах да разбору скарг працоўных у Жлобінскім раёне

*(Пастанова бюро ЦК КП(б)Б)*

Заслухаўшы паведамленне сакратара Жлобінскага РК КП(б)Б тав. Ліхерзака і інструктара сельгасаддзела ЦК КП(б)Б тав. Дзегцярова аб становішчы справы па разбору ў раёне скарг працоўных, ЦК адзначае, што ў радзе раённых арганізацый Жлобінскага раёна (РВК, райза, райана, райфа) скаргі не атрымліваюць вырашэння і адказаў на працягу 100 і больш дзён або губляюцца зусім (чырвонаармеец тав. Каранькоў Г. І. атрымаў адказ ад раённага выканаўчага камітэта на сваю скаргу праз 96 дзён; тав. Кірэйкаў І. К.—калгаснік калгаса «Зара»—атрымаў адказ ад райза на сваю скаргу праз 132 дні; скарга Падтачаева—калгасніка—аб няправільным выключэнні яго з калгаса не разгледжана райза з 27/III-36 г.; згублена ў РВК скарга настаўніка тав. Суша Я. Л. і т. д.). У райана адзначаны факты прамога знішчэння скарг. Кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў справай разбору скарг па сутнасці не займаліся. Штодзённы кантроль за ходам праверкі фактаў па скаргах адсутнічаў.

Устанавілася недапушчальная практыка механічнай перасылкі скарг, незалежна ад іх зместу, ніжэйстаячым арганізацыям і ўстановам і нават тым з іх, на якіх падавалася скарга.

Нездавальняюча пастаўлена работа па разбору скарг працоўных і ў сельсоветах, работнікі якіх не адчуваюць адказнасці за гэту справу.

Усё гэта сведчыць аб бяздушных, фармальна-бюракратычных адносінах з боку партыйных і совецкіх арганізацый раёна да справы разбору скарг працоўных.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Указаць сакратару РК КП(б)Б тав. Ліхерзаку і старшыні РВК тав. Люцько на прамую недаацэнку з іх боку ўсёй палітычнай важнасці справы своечасовых і ўважлівых адносін да скарг працоўных і абавязвае забяспечыць у дэкадны тэрмін разгляд усіх паступіўшых у райарганізацыі скарг. У прыватнасці, неадкладна разгледзець справу калгасніка Падтачаева аб яго няправільным выключэнні з калгаса і выплаты яму па працаднях з прыцягненнем вінаватых да найстражэйшай адказнасці.

2. За бюракратычныя і фармальныя адносіны да скарг працоўных абвясціць вымову загадчыку райза тав. Цараву і былому загадчыку райана тав. Лешакову, папярэдзіўшы, што ў выпадку паўтарэння падобных адносін да скарг працоўных яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасці.

3. ЦК КП(б)Б прапануе РК і РВК строга кіравацца рашэннем пленума Камісіі совецкага кантроля па пытанню аб разглядзе скарг працоўных, ні ў якім выпадку не дапускаючы перадачы расследвання скарг асобам і арганізацыям, на якія скаргі паступаюць.

ЦК КП(б)Б абавязвае сістэматычна арганізоўваць праверку становішча разбору ўстановамі і арганізацыямі скарг працоўных, абмяркоўваючы ў кожным канкрэтным выпадку факты нерэагавання на пасяджэннях РК КП(б)Б і РВК, прыцягваючы да найстражэйшай адказнасці асоб, вінаватых у дапушчэнні затрымак пры рэагаванні на скаргі і парушаючых пастанову пленума КСК па гэтаму пытанню.

4. ЦК КП(б)Б зварачае асаблівую ўвагу кожнага кіраўніка ўстановы і прадпрыемства на неабходнасць устанаўлення такога парадку, пры якім паступаючая скарга разглядалася-б у першую чаргу кіраўніком установы з тым, каб па скаргах прымаліся неадкладна адпаведныя практычныя захады з указаннем выканаўцы, цвёрдага тэрміну выканання і з устанаўленнем сур'ёзнага кантролю за паследуючым выкананнем.

5. ЦК патрабуе ад кіраўніцтва кожнай раённай арганізацыі спынення механічнай перасылкі скарг у ніжэйстаячыя органы і прадпрыемствы, зварачаючы ўвагу на неабходнасць арганізаваць самастойнае расследванне скарг з шырокім прыцягненнем да гэтай справы праверанага актыва (секцыі советаў, дэпутацкія групы, рабкораў, «лёгкую кавалерыю», спецыялістаў), а калі гэта неабходна—і шляхам спецыяльных выездаў адказных работнікаў для расследвання скарг на месцы.

6. ЦК абавязвае партыйна-совецкае кіраўніцтва і іншых раёнаў БССР да ўважлівай праверкі пастаноўкі справы расследвання ў раёне скарг працоўных і рэагавання на іх.

---

## Аб бесперашкодным продажы хлеба калгасамі, калгаснікамі і працоўнымі аднаасобнікамі

*Пастанова Совета Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б*

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) у сувязі з выкананнем па БССР гадовага плана хлебаздачы, Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

Дазволіць калгасам, калгаснікам і працоўным аднаасобнікам БССР бесперашкодны продаж свайго хлеба (мукой, зярном і печаным хлебам) кааперацыйным арганізацыям, а таксама на гарадскіх і сельскіх рынках і станцыях чыгунак.

Старшыня СНК БССР **М. Галадзед**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Н. Гікало**

---




Уп. Галоўлітбела № Л—1902
Тыраж 9930 экз.
211.200 друк. зн. (4 арк.)
Здана ў набор 15/I-37 г.
Падпісана да друку 4/II-37 г.

*Рэдкалегія* { Г. Рубіштэйн, Д. Конік }
*Нам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 66.

ЦАНА 40 кап.

